PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 40 (2108) Год XLI Беласток 6 кастрычніка 1996 г. Цана 70 гр. (7 000 ст. зл.)

## Яшчэ адна беларуская школа

**Газета „Rzeczpospolita" ад 19 верасня г.г. паведаміла, што 21 верасня г.г. прэм'ер-міністры Беларусі і Польшчы — *Міхаіл Чыгір* і *Владзімеж Цімашэвіч* — *адкрыюць школу з беларускай мовай навучання ў Кляшчэлях* і польскую школу ў Гродне. Праграма супольнага падарожжа прэм'ер-міністраў па Беласточчыне і Гродзеншчыне прадугледжвала таксама візітацыю пагранічных пераходных пунктаў...**

Маладая пані Бася, якая працуе барменкай у кляшчэлеўскай забягалаўцы, што насупраць новага школьнага будынка, не ўважае, што новы гарадскі статус Кляшчэль што-небудзь у яе жыцці змяніў. Як было, так і засталося. Пані Бася праваслаўнага веравызнання — прызнаецца ў гэтым без аніякага вагання. Праваслаўных у Кляшчэлях большасць. На пытанне, як бы яна нацыянальна сябе вызначыла — полькай ці беларусінкай — трохі задумваецца, але таксама ж без ніякіх сумненняў адказвае, што полькай.

— Я тут нарадзілася, узгадавалася і тут жыву. Тут, значыць у Польшчы.

Беларускую мову пані Бася вывучала ад чацвёртага класа пачатковай школы, але кінула, бо не ладзілася гэтая мова з рускай.

— Бурмістр наш, — дадае пані Бася, — вельмі добра прадстаўляе наша мястэчка. Такі прыстойны і да таго гладка гаворыць.

Размову нашу абрывае енк сігналаў машын урадавай калоны. Гэта польскі прэм'ер-міністр... Нельга сказаць, што ён прыехаў у Кляшчэлі або прыбыў — ён, уласна кажучы, уляцеў туды, узнімаючы на выглянцаванай галоўнай магістралі Кляшчэль туманы пылу, а за справай гвалтоўна ціснутых тармазоў над вуліцай узняліся і воблакі дыму. Жыхароў Кляшчэль прэм'ер такім чынам засціг, але, як аказалася, не была гэта яшчэ тая пара. Прэм'ер В. Цімашэвіч рабіў сабе агляд сітуацыі. Ён у суправаджэнні бурмістра **Аляксандра Сяліцкага** агляну́ў школу і ўрадавая калона сарвалася з месца — на мяжу, сустракаць прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь **Міхаіла Чыгіра**.

Пані Бася крышку засумавала. Не ўдалося ёй згледзець прэм'ера. А да таго ж...

— Цяпер нам хіба забароняць прадаваць тут алкаголь, — кажа, кіўнуўшы галавою ў бок школы па другі бок вуліцы.

Я пагаджаюся з ёю. Адлегласць паміж забягалаўкай і школай надта ж недыдактычная. Пытаюся яшчэ, ці застанецца яна без працы, калі справа прыме такі менавіта ход, але пані Бася добрай думкі. За вакном збіраецца паволі натоўп, падыходзіць пара ўрачыстасці. Людзі, якія сабраліся — мусіць праваслаўныя, бо пані Бася сказала, што католікі на Прачыстую капаюць бульбу ў полі.

Урачыстасць сімвалічнага адкрыцця кляшчэлеўскай школы (фактычнае ж адбылося ў пачатку школьнага года) мела тыповы для такіх мерапрыемстваў ход. Прамовіў бурмістр А. Сяліцкі, вітаючы знакамітых гасцей ды прыгадваючы моманты гісторыі Кляшчэль. Абодва прэм'ер-міністры перадалі школе знакамітыя падарункі — кнігі. Але прэм'ер-міністр М. Чыгір у гэтым месцы пабіў свайго польскага калегу, бо прывёз для школы яшчэ камп'ютэр (!), а той не. Яго перавага была аднак хвілінная, бо калі дайшло да прамоў, то В. Цімашэвіч загаварыў на сваёй роднай мове (польскай), а М. Чыгір — не (бо на рускай). У час міні-прэс-канферэнцыі абодва дзяржаўныя мужы як бы зраўняліся — той і той на пытанні адказвалі на сваіх родных мовах. Але трэба было б тут заўважыць і тое, што сярод кніг, прывезеных М. Чыгіром для кляшчэлеўскай школы, былі і падручнікі, выдадзеныя ў прамежак лібералізму ў Беларусі (г.зв. адраджэння) — яны цяпер адміністрацыяй прэзідэнта выводзяцца са школьных праграм. Калі ўлічыць, што такім чынам прэм'ер М. Чыгір ратаваў пару сотняў кніг ад гільяціны і перамолу на макулатуру, то гэта, у агульным падліку, дае яму адпаведную перавагу над яго польскім *odpowiednikiem*.

Бурмістр А. Сяліцкі таксама ўручыў госцям падарункі — каб ім запамятаўся візіт у Кляшчэлях. Былі гэта вырабы народнага мастацтва. Прэм'ер-міністру Рэспублікі Беларусь...

— ...chcę podarować tego ptaka, który przedstawia głuszca, — сказаў А. Сяліцкі.

У далейшых словах бурмістра птах аказаўся не толькі ўвасабленнем głuszca, але і метафарай істоты, для якой не існуе межаў. Прэм'ер-міністру В. Цімашэвічу бурмістр Кляшчэль падараваў, выкананае ў падобнай манеры, ягня (якое ўвасабляла baranka, што ў кляшчэлеўскім гербе). Можа выбягу тут я занадта наперад, але хочацца адзначыць вялікую абачлівасць кляшчэлеўскага бурмістра — у адным са школьных кабінетаў спачываў яшчэ запасны вожык. Ці ж трэба тут дапаўняць, што вожык гэты ўвасабляў менавіта вожыка?

У справе rewelacji газеты „Rzeczpospolita", быццам мовай навучання ў Кляшчэлях мае быць беларуская, бурмістр заняў абсалютна адназначнае становішча.

— Muszę to zdecydowanie zdementować. Nasza szkoła jest szkołą polską, w której spośród 300 dzieci 100 zadeklarowało wolę uczęszczania na lekcje języka białoruskiego, — сказаў А. Сяліцкі.

На заканчэнне ўрачыстасці ў школе абодва прэм'еры выйшлі да народу, які ўсё больш тлумна сабіраўся перад будынкам. І быў гэта piękny жэст.

— О то-то наш прэм'ер! — пачулася з натоўпу кляшчэлеўцаў.

Каторы з двух дзяржаўных мужоў меўся тут на ўвазе, устанавіць не ўдалося. Калі прапхнуўся я бліжэй да палітыкаў, да людзей прамаўляў Міхаіл Чыгір.

— А нам тлумачыць не трэба, мы ўсё разумемы — нехта сканфузіў перакладчыцу М. Чыгіра, але самога М. Чыгіра, магчыма, абрадаваў.

Пасля гэтай гутаркі прэм'ер-міністры ўселіся ў свае машыны і, у суправаджэнні невыказнага стогну мігалак, рушылі ў далейшае падарожжа, пакідаючы ў сэрцах кляшчэлеўцаў светлую думку, што...

— Нарэшце ктось і нас адведаў!

* * *

На пагранічным пераходным пункце ў Бобраўніках усе трацілі цярплівасць. Урадавая калона спазнялася. Пайшла чутка, што бурмістр Бельска зацягнуў абед (*чытайце на 4 стар.*). Калі ўраднікі ўрэшце з'явіліся, усе былі проста ў класным настроі. Перад прэм'ер-міністрамі быў разгорнуты план разбудовы пераходнага пункта. Інжынер ахвотна тлумачыў прагрэс пабудовы новых аб'ектаў. Прадстаўнікі польскай мытнай службы былі таксама дужа задаволены.

— Fajnie jest, — сказаў адзін, — nawet kolejki nie ma.

— No wiesz! — абсадзіў яго калега. — Już będzie ze dwie godziny, jak zatrzymaliśmy wszelki ruch.

У Бабраўніках вакол прэм'ер-міністраў сабраўся таксама немалы натоўп. Зышліся і жыхары бабраўніцкай зоны.

— Дзе ён, — дапытвалася адна бабуля, — ну дайце хоць паглядзець.

— Людзі! — загаласіла іншая. — Столькі абслугі для аднаго чалавека!

Гэтым часам тая першая ўжо ўбачыла.

— Ён нармальны чалавек, — сказала яна, — такі сам, як у тэлевізары.

Прэм'ер, ці не, а на мяжы пашпарт патрабуецца ад кожнага. Адзін з удзельнікаў дэлегацыі пачаў збіраць ва ўсіх дакументы дзеля адправы. Замяшанне аднак было да таго вялікім, што ён разгубіўся і... махнуў у канцы рукою.

— I tak nikt tutaj nie jest w stanie tego policzyć.

Абодва прэм'ер-міністры, у суправаджэнні сваёй абслугі, падаліся пешшу на другі бок. Там ізноў уселіся ў машыны і ад'ехалі ў Гродна. W sinią dal.

**Аляксандр Максімюк**




*Прэм'ер-міністры Владзімеж Цімашэвіч і Міхаіл Чыгір у Пачатковай школе ў Кляшчэлях.* Фота Міколы ВАЎРАНЮКА

# Мы прачыталі

*Zarobki dyrektorów państwowych przedsiębiorstw sięgają kilkuset milionów starych złotych miesięcznie. Płaca szefa jednej z centrali handlu zagranicznego z dodatkami i nagrodami dochodzi do 600 mln starych złotych. W mającej najgorsze wyniki finansowe Bytomskiej Spółce Węglowej pensje członków zarządu w 1995 r. wzrosły o 134,7 proc. Spółki węglowe dostały przy tym znaczące wsparcie z budżetu państwa. Umorzono im podatki od ponadnormatywnych wynagrodzeń, z dotacji pokryto składki ubezpieczeniowe. Są to sumy wielkości dziesiątków bilionów złotych.*

*Gazeta Wyborcza, nr 217*

Тых, якія напамінаюць нас, што існуем, дзякуючы датацыям, інфармуем, што іх гадавая велічыня складае дзве месячныя зарплаты дырэктара дзяржаўнай фірмы.

* * *

*На Беларусь вяртаюцца часы гнюсных даносаў, хлусні, рабалепства перад „вождём" ды барацьбы з ворагамі народаў. У першыя шэрагі гэтага „идеологического" (лепш сказаць „идиотического") боя кінулі людзей з досведам — былых верных служакаў сталінічыны і брэжнеўшчыны, якія калі самі не расстрэльвалі, то хлопалі ў далоні, калі чарговых „ворагаў" вялі ў Курапаты ці высылалі ў ГУЛАГ.*

*Пагоня, н-р 37*

* * *

*W Chinach dokonuje się 70 proc. egzekucji w skali świata. Kara śmierci grozi za nieterminowe zapłacenie podatku VAT, dożywocie za rzucenie jajkiem w portret Mao-Tse-Tunga. Większość więźniów odbywa karę w obozach koncentracyjnych, gdzie stawka żywnościowa wynosi dwa dolary, a śmiertelność jest tak wysoka, że szansa przeżycia kilkuletniego wyroku jest bliska zeru. Prawie wszystkie kobiety w czasie śledztwa i w więzieniu są gwałcone. Prawo do bogacenia się w Chinach mają wyłącznie ludzie władzy i członkowie ich rodzin. O ile innych obywateli za szwindle finansowe czeka kula w łeb, o tyle synom i córkom czołowych notabli komunistycznych nie grozi nic. Sądy uznają „przewodnią rolę partii".*

*Gazeta Wyborcza, nr 211*

* * *

*Młodzież z dawnego aparatu, uczestnicząca w starym systemie na zasadzie bezideowego konformizmu, przyjęła kilka niedobrych cech partii komunistycznej. Ich demoralizacja jest oczywista. Tragedię stanowi też to, że tzw. antykomuniści przejęli komunistyczne poglądy w sferze społeczno-gospodarczej, z czego sobie zresztą nie zdają sprawy. Tragedią jest wreszcie postawa polskiego kleru, rozpraszającego się w działaniach pozornych i tworzącego mity.*

*Wprost, nr 37*

* * *

*Грамадзянам Беларусі і асабліва мінчанам не пагражае асенняя бытавая неўладкаванасць. Гарачая вада адключацца не будзе. Як паведамілі ў галоўным упраўленні грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі Прэзідэнта, ворагі праваздзення рэферэндуму 7 лістапада крыху паспяшаліся з чарговай правакацыяй, распусціўшы чуткі аб быццам бы хуткім адключэнні гарачай вады. Змяненне графіка падачы гарачай вады або яе адключэнне ў мэтах эканоміі электраэнергіі не прадугледжваецца.*

*Звязда, н-р 227*

Мы таксама абураны дзейнасцю правакатараў, якія распускаюць весткі аб адключэнні гарачай вады. Праклятыя ворагі народа не спяць!

* * *

*„Люди! Будьте бдительны! В республике запахло фашизмом!" — так называется обращение к народу Председателя Верховного Совета Семена Шарецкого. Какой же в Белоруссии фашизм, если противники Президента — из БНФ и другие — тусуются по улицах и площадях Минска? Любители „бел-чырвона-белых" в годы войны охотно записывались в полицаи... Простите, какая же у нас „диктатура", если оплачиваемые валютой собкоры радио „Свобода" могут спокойно гнать в эфир антипрезидентскую грязь со своих домашних телефонов? —* пытае прэзідэнцкая

*Народная газета, н-р 237*

* * *

*Policjanci z Wydziału do Zwalczania Przestępczości Zorganizowanej KWP w Białymstoku zatrzymali dziewięcioosobową grupę gangsterów, która w ciągu dwóch lat przemyciła przez przejście w Kuźnicy Białostockiej 100 kradzionych samochodów. W skład gangu wchodziło pięciu funkcjonariuszy Podlaskiego Oddziału Straży Granicznej.*

*Kurier Poranny, nr 219*

* * *

*Organizacja festynu (w Gródku) ze strony BTSK wzbudziła zaniepokojenie władz BDA. Zarzucono białoruskiej organizacji z Białegostoku wykorzystywanie podobnych imprez w innych miejscowościach do prywatnych celów politycznych działaczy. Aktywiści BTSK nie powiadomili nawet miejscowych władz Białoruskiego Zjednoczenia Demokratycznego. W gminie też nic nie wiedziano o przyjeździe gości oficjalnych — posłów Ziemi Białostockiej. Obawiając się akcentów politycznych, przed rozpoczęciem imprezy gospodarze zwrócili uwagę, że powinna ona mieć wyłącznie charakter kulturalny. Niestety, BTSK to zignorowało i, tak jak w innych miejscowościach, za nasze pieniądze zafundowało propagandę wyborczą dwóm parlamentarzystom (Siergiejowi Plewie i Stanisławowi Maliszewskiemu).*

*Wiadomości Gródeckie*
*— Haradockija Nawiny, nr 8*

# З мінулага тыдня

**Ваяводская пракуратура ў Беластоку** спыніла справу супраць фірмы „Рух" і кіяскёраў за распаўсюджванне парнаграфіі. Паводле пракуратуры, дзейнасць беластоцкага аддзялення „Рух" і яго прадаўцоў не мае рысаў злачынства, а абвінавачанні парафіяльных актывістаў не маюць юрыдычнага абгрунтавання. Адной з прычын спынення справы з'яўляецца адсутнасць адназначанай і аб'ектыўнай дэфініцыі парнаграфіі ў крымінальным кодэксе і юрыдычна праведзенай мяжы паміж парнаграфіяй і эротыкай.

**Беластоцкае таварыства эсперантыстаў** выступіла ініцыятарам агульнасусветнай акцыі „Адкрытка для прэзідэнта". Праводзіцца яна будзе ў днях 1 кастрычніка — 15 снежня г.г. Тады эсперантысты ўсяго свету стануць высылаць прэзідэнту горада Беластока, у якім нарадзіўся стваральнік эсперанта Людвік Заменгаф, паштоўкі з прывітаннямі, каб такім чынам звярнуць уладам увагу на феномен мовы эсперанта і неабходнасць стварэння ў горадзе сусветнага эсперанцкага цэнтра. Акцыя прымеркавана да 75-годдзя заснавання эсперанцкага таварыства ў Беластоку.

**Залаты медаль** за гарэлку „Палацовая" заваяваў беластоцкі спіртзавод на Міжнародным сельскагаспадарча-прамысловым кірмашы „Polagra '96" у Познані. Сярэбраны і бронзавы медалі атрымаў піўзавод Дайліды ў агульнапольскім конкурсе якасці піва.

**Інкубатар** — цэнтр прадпрымальнасці — паўстаў у Бельску-Падляшскім у выніку супольнай ініцыятывы Фонду развіцця Беластоцкага ваяводства, улад гміны і горада ды пры фінансавай дапамозе Польска-брытанскай праграмы развіцця прадпрымальнасці. Першая такога тыпу ўстанова ў ваяводстве будзе дапамагаць малым прыватным фірмам увайсці на рынак. ФРБВ намервацца арганізаваць сетку падобных інкубатараў ва ўсім ваяводстве.

**Гайнаўскае прадпрыемства сухой перагонкі драўніны** купіла польска-шведская суполка „Грыфсканд" з Грыфіна. Новы ўласнік абавязаўся адзін год не змяншаць колькасці працоўных (250 чалавек), а на працягу трох гадоў заінвеставаць у завод 3 млн. зл.

**II Міжнародны бег Гусеў — Голдап** прыцягнуў на старт 77 спартсменаў з Беларусі, Польшчы і Расеі, якім трэба было прабегчы дыстанцыю 20,097 км. Сярод мужчын першымі на мэту ў Голдапе прыбеглі Міраслаў Дзянісік (Дуброва-Беластоцкая), Дар'юш Вячорак (Варшава), Андрэй Каваленка (Менск) і Сяргей Юдзянкоў (Магілёў). Пераможцамі сярод жанчын аказаліся Вольга Юдзянкова (Магілёў), Валянціна Каваленка і Ялена Мацвееўна (абедзве з Калінінграда).

**Ваяводская пракуратура ў Беластоку** ўзбудзіла справу супраць групы кантрабандыстаў, які займаліся перапраўкай на ўсход крадзеных на тэрыторыі Польшчы і заходніх краін Еўропы аўтамашын. Абвінавачанні пракуратура паставіла шаснаццаці асобам, у тым ліку шасці пагранічнікам з Кузніцы-Беластоцкай. За дапамогу ў перапраўцы адной машыны цераз мяжу пагранічнікі даставалі па 1000-1500 долараў хабару. Чатырнаццаць падазроных у злачынстве часова арыштаваны.

**Трое замаскіраваных злачынцаў** напалі на аўтазапраўчную станцыю ў Бельску-Падляшскім і ўкралі 2700 зл. Гэта ўжо чацвёрты напад на АЗС у Бельску на працягу апошніх трох гадоў. Дагэтуль не выяўлена ўдзельнікаў ніводнага з нападаў.

## Неўзабаве ў „Ніве"

- **Нурэцкая гміна** — рэпартаж Віталя Лубы.
- **Забытыя хаткі ў Нарваўскай гміне** — карэспандэнцыя Міколы Лук'янюка.
- **Сустрэча беларускай, польскай і нямецкай моладзі ў Гданьску** — карэспандэнцыя Лены Глагоўскай.

# Весткі з Беларусі

**Давер спікеру**

17 верасня аднавіла работу II сесія Вярхоўнага Савета. Пры яе адкрыцці старшыня ВС Сямён Шарэцкі запрапанаваў дэпутатам адклікаць яго з пасады кіраўніка парламента. Аднак за ўключэнне ў парадак дня сесіі гэтага пытання выказаліся ўсяго 22 парламентарыі са 107, якія прынялі ўдзел у галасаванні. Інакш кажучы, дэпутаты выказалі давер спікеру, які сказаў, што яго задавальняе такі падыход і ён згодны далей працаваць на гэтай пасадзе.

**Візіт лідэра кампартыі**

Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі сустрэўся з кіраўніком Камуністычнай партыі Расеі Генадзем Зюганавым. Падчас сустрэчы расейскі госць выказаў меркаванне аб тым, што кіраўніцтва Расеі зацікаўлена выступіць у ролі міратворца ў Беларусі. Трэба адзначыць, што лідэр камуністаў Расеі зрабіў гэту заяву не толькі ад сваёй кампартыі, але ад імя ўсёй Расейскай Федэрацыі. Генадзь Зюганаў выступіў таксама перад дэпутатамі ВС, затым меў гутаркі з прэм'ер-міністрам і прэзідэнтам рэспублікі.

**Абмен вопытам**

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка сустрэўся з групай былых кіраўнікоў рэспублікі, якія ў розныя гады займалі высокія дзяржаўныя пасады. Адбылася цікавая, адкрытая размова вакол праблемаў пераадолення напружанасці ва ўзаемаадносінах заканадаўчай і выканаўчай улад, якая ўзнікла з-за розных пунктаў гледжання на правядзенне рэферэндуму і абмеркаванне праекта канстытуцыі.

**Клопаты з бюджэтам**

Эканамічная сітуацыя ў рэспубліцы адмоўна ўплывае на выкананне дзяржаўнага бюджэту, — паінфармавала Міністэрства фінансаў. За восем месяцаў гэтага года даходная частка бюджэту выканана на 52%, расходная — на 50%. Бюджэтны дэфіцыт склаў каля 2% ад валавога ўнутранага прадукту. Рост колькасці стратных прадпрыемстваў прыводзіць да значных недапаступленняў у бюджэт. Прадпрыемствы рэспублікі — асноўная крыніца бюджэтных паступленняў — завінаваціліся дзяржаве ў выглядзе няўплачаных падаткаў у 2,4 трыльёна рублёў. Недапаступленні па іншым даходным артыкуле — крыніцах знешняга фінансавання: крэдыты Сусветнага банка і Міжнароднага валютнага фонду — таксама значныя і ў цэлым за год складуць каля 1 трыльёна рублёў. Да канца года выкананне дзяржбюджэту прагназуецца ў памеры 80% ад сумаў, прадугледжаных законам аб бюджэце на 1996 г.

**Сельскагаспадарчая рэформа**

У прэс-цэнтры Вярхоўнага Савета адбыўся круглы стол, прысвечаны абмеркаванню праекта закона аб адаптацыі сельскагаспадарчых прадпрыемстваў рэспублікі да рынкавых умоў. Праект вызначае прававыя, эканамічныя і арганізацыйныя асновы працэсу адаптацыі сельгаспрадпрыемстваў да рынку. Адзін са шляхоў укаранення рынкавых механізмаў у вёсцы — рэструктурызацыя і рэфармаванне калгасаў і саўгасаў пры дапамозе ўкаранення новых формаў арганізацыі працы.

**Пустуючыя плошчы**

У Менскім гарадскім выканаўчым камітэце вядзецца праца над стварэннем спісу пустуючых на прадпрыемствах і арганізацыях плошчаў, якія могуць быць здадзены ў арэнду, а таксама спісу жадаючых набыць у арэнду плошчы ў сталіцы. На розных прадпрыемствах і арганізацыях горада маюцца невыкарыстаныя плошчы, якія могуць задаволіць існуючы на іх попыт беларускіх прадпрымальнікаў.

**Збытак прызыўнікоў**

Падчас апошняга прызыву ў беларускае войска прызывалася больш чым 26,5 тысяч чалавек. Аднак у войска адпраўлена толькі 16 059 маладых людзей прызыўнога ўзросту. Менавіта такая колькасць нававбранцаў была патрэбна ўзброеным сілам для ўкамплектавання.

**Уваранне ў Нідэрланды**

„Беларускае уваранне ў Эйндхавен" — так называўся фестываль беларускай маладзёжнай культуры, які ў канцы верасня адбыўся ў гэтым галандскім горадзе. На працягу тыдня клубы і канцэртныя пляцоўкі Эйндхавена сталі арэнай для выступленняў і прадстаўленняў менскіх андэрграўндных музычных калектываў, фатографаў, графік-дызайнераў і кінарэжысёраў новай хвалі.

# Сопацкі бізнес-кант

Кожны з гандляроў разумее, што рэклама з'яўляецца рычагам гандлю. Таму не скупяць яны грошай тэлебачанню ці іншым сродкам масавай інфармацыі, каб тыя расхвальвалі іх тавары. Пачаткова хвалілі маргарыны. Пасля сціральныя парашкі і ўсялякую бытавую хімію. Зараз рэкламуецца амаль усё, што прадаецца ў крамах.

Каб прыманіць як найбольш пакупнікоў, розныя фірмы арганізуюць конкурсы з узнагародамі. Ды яшчэ з якімі ўзнагародамі! Аўтамабіль з'яўляецца асноўным прызам. Мала хто верыць у прыманкі гандляроў. Аднак трапляюцца такія...

Ірэна Р. з Чаромхі атрымала ліст з фірмы „Еўраглоб" з Гдыні, у якім паведамлялася, што ў выніку жараб'ёўкі яе прозвішча апынулася на спіску пяці пераможцаў конкурсу. Калі жанчына скрупулёзна разгледзела прысланыя ёй дакументы, зразумела, што... выйграла аўтамабіль „Фіат-пунта". Цешыліся ўсе ў хаце! Трэба было выканаць апошняе запісанае ўмовамі конкурсу патрабаванне — заказаць тавар у гэтай фірме. Ірэна Р., хоць з грашамі ў яе скупавата, заказала тавар амаль на семсот тысяч старых злотаў. Праз тры тыдні прыходзіць з Гдыні пасылка з заказаным таварам. Аб узнагародзе ні гу-гу. Чакае Ірэна Р. месяц, другі. У пачатках жніўня зноў прыйшоў ліст з Гдыні, у якім знаходзіліся такія ж самыя паперы, як у месяцы красавіку. А калі ў маленькім канверціку знайшла пяць такіх жа „выйграных" нумароў (у тым ліку аўтамабіля), падумала, што памыліліся. Аднак зноў заказала тавар на паўмільёна. Гэтым разам паслала ліст у дырэкцыю фірмы „Еўраглоб" у Сопат з патрабаваннем растлумачыць, чаму яна не атрымала выйгранай узнагароды. У палове жніўня атрымала яна пісульку з Сопата, што ў выніку жараб'ёўкі асноўную ўзнагароду — аўтамабіль „Фіат-пунта" атрымаў нумар 236311, іншы, як было раней запісана. Паслала тады Ірэна Р. ліст у дырэкцыю „Еўраглобу", у якім заявіла шэфу фірмы, што яны з'яўляюцца звычайнымі ашуканцамі. Які будзе адказ, цяжка мне зараз сказаць. Адно ўжо пэўнае, што гэтая фірма не будзе ўжо мець кліентаў у чаромхаўскім грамадстве.

Пра тое, што гандляры з „Еўраглобу" з'яўляюцца нахабнымі ашуканцамі, сведчаць іншыя прыклады. Тыдзень пазней як Ірэна Р. атрымала паведамленне з Сопата, у Чаромху паступілі лісты іншым жыхарам пасёлка. Мне ўдалося разгледзець адзін з іх. Антаніна К. атрымала ўсе дакументы на „пяць асноўных узнагарод", як і Ірэна Р. — зменены ў іх толькі прозвішчы і нумары выйгрышаў. Антаніна К. таксама выйграла... аўтамабіль „Фіат-пунта". Аднак нумар выйгранага аўтамабіля не згаджаецца ні з нумарам пададзеным у лісце Ірэны Р., ні з тым другім, які назвала фірма ў адказе гэтай жанчыне. Мала таго. Дублікаты такіх жа выйгрышных нумароў знайшліся ў лісце адрасаваным іншаму кліенту „Еўраглобу", Паўлу Т., таксама жыхару чыгуначнай Чаромхі.

Як мне сказалі гэтыя тры асобы, яны на працягу апошніх гадоў ніколі не куплялі ў фірме „Еўраглоб". Адкуль тады фірма ўзяла іх дамашнія адрасы?

Канстатуючы вышэйпаказаныя прыклады, хачу проста перасцерагчы чытачоў „Нівы", каб не верылі ніякім фірмам, бо яны толькі маняць і ашукваюць людзей. Найлепш купляць тавар у краме. А калі чалавек сам пераканаецца ў яго дасканаласці, перадасць сваю рэкламу суседу.

**Уладзімір Сідарук**

# Парад белавежскіх грыбоў

Сёлетняя восень прынесла няшмат грыбоў, асабліва тых ядомых. Усё ж арганізатарам выстаўкі грыбоў Белавежскай пушчы, якая працягвалася ў днях 13—16 верасня г.г. у памяшканні Адукацыйнага прыродазнаўчага асяродка Белавежскага нацыянальнага парку, удалося паказаць іх звыш 170 відаў. Магчыма толькі таму, што белавежскія нетры перашукоўвала некалькі дзён шматлікая колькасць збіральнікаў, галоўным чынам вучні мясцовага Лясного тэхнікума і LXX Агульнаадукацыйнага ліцэя з Варшавы, удзельнікі Злёту гарцэраў з Беластока, студэнты-стажоры з Тылбурга ў Галандыі, а таксама працаўнікі мясцовых навуковых установ і нацыянальнага парку.

Сабраныя грыбы раздзяліла па відах праф. Анна Буякевіч з Універсітэта А. Міцкевіча ў Познані, якая дзеля гэтай мэты спецыяльна прыехала на пару дзён у Белавежу. Па выстаўцы вадзіў Багдан Ярашэвіч, наглядальнік фондаў тутэйшага музея. Падчас выстаўкі можна было купіць на месцы навейшыя кніжкі пра грыбы і наогул на іншыя прыродазнаўчыя тэмы, а таксама плакат „Ахоўваемыя грыбы Белавежскай пушчы" і відэакасету з тэлесерыялам „Пульс першабытнай пушчы".

Карыстаючыся нагодай, Гжэгаж Аколаў, супрацоўнік Кампіноскага нацыянальнага парку, зарэкамендаваў выстаўку сваіх здымкаў грыбоў. Абедзве выстаўкі наведала 975 чалавек. Малгажата Бушко, кіраўнік Адукацыйнага прыродазнаўчага асяродка БНП, намервается занесці наладжванне выставак грыбоў у штогадовы план працы сваёй установы.

**Пётр Байко**

# І зноў абдурваюць!

Аб тым, што гандляры нас абдурваюць у крамах, непатрэбная лішняя гаворка. Нядаўна я пісаў аб гэтым у публікацыі „Несумленныя прадаўцы" („Ніва" ад 3 сакавіка г.г.). Зараз хачу яшчэ паказаць адзін прыклад ашуквання кліентаў.

Занёс я дзевяць бутэлек з-пад піва ў прадуктовую краму „Два плюс", якая знаходзіцца ў Чаромсе каля чыгуначнай станцыі. Прадаўшчыца ахвотна ўзяла шклатару і падала мне 27 тысяч старых злотаў.

Чаму так? — пытаю прадаўшчыцу. — Не хапае мне дзевяць тысяч...

— Мы плацім па тры тысячы за бутэльку, — адказвае тая.

— Дык чаму ж тады ад кліента бярэце залог па чатыры тысячы?

— Калі ў мяне нехта купляе і я гэта ведаю, звяртаю па чатыры...

— А калі ў каго іншага?

— За адну ці дзве штукі плацім таксама па чатыры. Пры большай колькасці, па тры, — паясняе прадаўшчыца.

І што мне рабіць, сварыцца? Тады гэтая паненка зусім не ўзяла б ад мяне парожніх бутэлек з-пад піва. Вязі туды, дзе піва купляў! А ці чалавек спамятае кожную краму і прадаўца? Пэўна, не! Значыцца, у такіх выпадках прыходзіцца страціць па тысячы на адной бутэльцы.

Кажуць, што ў Беластоку купляюць бутэлькі па чатыры тысячы ў кожнай краме. Няўжо ж у чаромхаўскіх крамах трэба абдурваць чалавека?

**(ус)**

# Гарэлка ў лакальнай палітыцы

20 верасня праходзіла першая пасля канікулаў сесія Гарадской рады Бельска-Падляшскага. Радных перад Бельскім домам культуры сустрэў пікет з пяці чалавек, якія прадстаўлялі Рух цвярозасці імя Максіміліяна Кольбэ. Дэманстранты трымалі ў руках ружанцы і транспаранты з лозунгамі: „Panie burmistrzu! Nie załatwia się problemu bezrobocia koncesjami na wódkę", „Stop rozpijaniu miasta!". „Polska będzie trzeźwa, albo nie będzie jej wcale" ды цытатай з Евангелля „Wszystko co uczyniliście jednemu z tych braci moich najmniejszych, Mnieście uczynili". Была таксама перасцярога: „Szanowni Radni! Prosimy... ale możemy was odwołać".

Пратэст каталіцкага руху быў выкліканы тым, што парадак сесіі прадбачваў два пункты: скасаванне мінулагодняй пастановы Рады аб забароне спажываць алкаголь у публічных месцах і павелічэнне з 11 да 30 колькасці манапольных крамаў у горадзе. Радны Міраслаў Талвінскі з каталіцка-правага клуба „Jedność" перад галасаваннем апеляваў да сумлення калегаў: „Мы з'яўляемся сведкамі сусветнага змагання дабра са злом. Бачым, як у гэтай барацьбе нішчэе польская сям'я і колькі прыносіць гэта болю Касцёлу і папу паляку. Немцы ў час вайны палічылі, што дзеля біялагічнага знішчэння польскага народу хопіць шэсць літраў спірту на галаву ў год. Няўжо мы для нейкай гандлёвай карысці будзем спрыяць пашырэнню зла?"

Дыскусія атрымалася надзвычай цікавая. Прыхільнікі новых рашэнняў тлумачылі, што ніхто нікому ў рот гарэлкі не лье і, што той самы алкаголь будзе выпіты, ці куплены ў адзінаццаці, ці ў трыццаці крамах. Больш гандлёвых пунктаў, канкурэнцыя — большая выгода кліентам. Апаненты прыводзілі польскую прымаўку: нагода родзіць злодзея. Калі амаль на кожнай вуліцы будзе можна купіць гарэлку, даказвалі яны, будуць пашырацца розныя паталагічныя з'явы ў грамадстве, якія бяруцца ад алкагалізму.

Гарадская рада, большасцю галасоў, павысіла ліміт пунктаў продажу алкаголю да трыццаці. Але ўтрымала ў моцы сваю мінулагоднюю пастанову, якая забараняе піць алкаголь на вуліцах, плячах і ў парках горада. Хаця раённы пракурор у афіцыйным лісце звярнуў увагу, што яна незаконная, бо больш строгая за Закон аб выхаванні ў цвярозасці.

Ніхто ў дыскусіі не зганўў эканамічнага фактара. Вядома, што новыя крамы, гэта меншыя грошы для ўласнікаў старых. Канцэсію дала ім у 1993 годзе яшчэ старая Гарадская рада, якая прадстаўляла інтарэс зусім іншай палітычнай плыні.

**Мікола Ваўранюк**

# Поспех хору БГКТ

У днях 12–15 верасня 1996 г. у Быдгашчы адбыўся VII Агульнапольскі агляд мастацкай самадзейнасці сеніёраў „ARS'96". У мерапрыемстве прымала ўдзел 88 калектываў (1600 аматараў народнага мастацтва) з усёй Польшчы.

Наша ваяводства прадстаўлялі на аглядзе тры калектывы з Беластока, а менавіта: хор Беларускага грамадска-культурнага таварыства, хор „Камбатант" з клуба „Каліна" і музычны калектыў „Як даўней" з клуба „Юбіляр". Пераможцам агляду аказаўся хор БГКТ, які заняў першае месца, заваяваў узнагароду прэзідэнта горада Быдгашчы і атрымаў запрашэнне прыняць у 1997 г. удзел у агульнапольскім мерапрыемстве „Бабіна лета". Прэзідэнт горада запрасіў беларускі калектыў на святкаванне „Дзён Быдгашчы". Хор БГКТ даў таксама цудоўны і незабыўны канцэрт для жыхароў Дому грамадскай дапамогі у Бажэнкаве, што ў Быдгаскім ваяводстве.

**Уладзімір Корх**
**намеснік старшыні**
**Галоўнага праўлення**
**Таварыства клубаў сеніёра**
**з сядзібай у Быдгашчы**

# За ўсё трэба плаціць!

Некалькі месяцаў назад пісаў я, што ў Кузаве ліквідаваўся пункт рознічнага продажу — мясцовая крама. Прычынай ліквідацыі крамы былі заўвагі „Санэпіду" — недахоп цякучай вады, працякаючы дах, неахайны выгляд будынка (унутры і звонку).

Даўнейшы ўладальнік і адначасова ўласнік, кляшчэлеўскі ГС, не клапаціўся пра рамонт. Задорага абыходзілася гэтае „мерапрыемства". Шукаў пакупніка. І знайшоў.

Будынак крамы нядаўна купіў прыватны прадпрымальнік з Чаромхі. Зрабіў ён рамонт. Зараз крама прыгожа выглядае. Тавараў рознага віду таксама ўдосталь. Цэны толькі „велізарныя". На кожным тавары па тысячы старых злотаў прыходзіцца плаціць больш, чым у Чаромсе ці іншай мясціне.

Ёсць у краме нават піва (даўней не было дазволу на яго продаж, бо праз вуліцу царква знаходзіцца). Як бачым, новы прадпрымальнік пра ўсё паклапаціўся. Шкада толькі, што за ўсю гэтую дабрадзейнасць кузаўцы мусяць плаціць (і за рамонт, і за тавары). А найбольш з усяго цешацца мясцовыя апівохі, бо да дзесятай увечары могуць пасядзець у краме пры бутэльцы півца.

**(ус)**

# Варта змагацца за родную мову!

Апошнім часам заціхлі спрэчкі пра патрэбнасць і сэнс навучання беларускай мовы. Наадварот, некаторыя школы знайшлі спосабы, якія абмінаюць прынцып добраахвотнасці.

— Абрыдлі ўжо нам тыя гаворкі пра непатрэбнасць нашай роднай мовы, — гаворыць адна пані дырэктар. У яе школе беларускай мове вучацца нават каталікі.

— Хто пачаў з другога класа, той мае абавязак вывучаць гэты прадмет да канца, — кажа мая субяседніца.

— А калі нехта знеахвоціцца, — дадае праваслаўны святар, заадно і настаўнік рэлігіі, — то я з бацькамі размаўляю.

У Н., апрача святара, з бацькамі знеахвочанага вучня размаўляюць яшчэ і іншыя настаўнікі — выхавацель, беларусістка і пані дырэктар.

— Найлепш паціху афармляць такія справы, — згаджаюцца настаўнікі.

— Думаем і пра адпаведны расклад для гэтых урокаў, — кажа пані дырэктар. — Ніколі не пакідаем беларускай мовы на канец. Бо тады яна сапраўды ўспрымаецца як нейкі дадатак.

„Адмяніліся нашы інтэлігенты настаўнікі" — падумаюць многія чытачы „Нівы". Праўда, аднак, больш складаная. Прэстыж беларускай мовы падняўся толькі там, дзе школы атрымалі дадатковыя грошы на гэты прадмет. Вядома не ад сёння, што школьніцтва нацыянальных меншасцей каштуе даражэй за звычайнае. Апрача традыцыйных метадаў навучання рэкамендуюцца і дадатковыя, цікавейшыя і ўнушальныя спосабы працы з дзецьмі. Таму нацыянальныя меншасці ў Польшчы, у тым ліку і беларусы, маюць 20-працэнтны дадатак на развіццё і падтрымку перш за ўсё роднай мовы.

Па-рознаму запланавалі ў гмінах выкарыстанне гэтых грошай. Наогул не вылучаецца іх з бюджэту школы. Тады грошы меншасці служаць і тым, што беларускасці выракаюцца. Пра ненармальнасць сітуацыі ў некаторых гмінах сведчыць і атмасфера засакрэчанасці. Бясспрэчны гэта факт і варта пра яго памятаць: дадатковых грошай не атрымалі гміны, у якіх няма навучання прадметаў для нацыянальных меншасцей.

Ніжэй друкуем асветныя субвенцыі, прызначаныя на беларускую мову. Падставай для вылічэння сумы дадатку ў гэтым часе была колькасць дзяцей, якія ходзяць на беларускую мову. Аб суме не вырашала ні агульная колькасць дзяцей, ні працэнт навучэнцаў праваслаўнай рэлігіі. (Параўнайце гміны Гарадок і Гайнаўка, дзе амаль такая ж колькасць дзяцей і працэнт навучання праваслаўнай рэлігіі. У гміне Гайнаўка 90% дзяцей вывучае беларускую мову, а ўгм. Гарадок — толькі 10% ходзяць на ўрокі роднае мовы.)

| | |
|---|---|
| Бельск-Падляшскі (горад — беларуская і ўкраінская мовы) | — 234 461 зл. |
| Бельск-Падляшскі (гміна) | — 69 087 зл. |
| Гайнаўка (горад) | — 140 000 зл. |
| Гайнаўка (гміна) | — 213 043 зл. |
| Заблудаў | — 10 074 зл. |
| Боцькі | — 13 043 зл. |
| Чаромха (беларуская і ўкраінская мовы) | — 15 236 зл. |
| Чыжы | — 112 000 зл. |
| Дубічы-Царкоўныя | — 57 179 зл. |
| Гарадок | — 20 000 зл. |
| Нарва | — 60 000 зл. |
| Нараўка | — 82 051 зл. |
| Нурэц-Станцыя | — 1 786 зл. |
| Орля | — 155 201 зл. |
| Кляшчэлі | — 49 522 зл. |

**Ганна Кандрацюк**

# Нашы карані

## XCII. На ўскраіне Блудаўскай пушчы

Немалую ролю ў духоўным жыцці праваслаўных адыграў Заблудаў. Яго заснаваў у 1511 годзе на паўднёвай ускраіне тады Блудаўскай пушчы сын вядомага дзяржаўнага дзеяча, ваяводы Івана Хадкевіча, Аляксандр — ваявода наваградскі. Ён таксама пабудаваў у новазаснаваным горадзе першую царкву.

Росквіт Заблудава наступіў за часу ўладання ім Рыгорам Аляксандравічам Хадкевічам — каштэлянам віленскім, гетманам Вялікага княства Літоўскага — у гадах 1549—1572. Ён учыніў гэтую мясцовасць сваёй родавай сядзібай, у караля дамогся свайму гораду магдэбургскага права, пабудаваў новую царкву Успення Багародзіцы, пры ёй адкрыў школу і прытулак для ўбогіх, забяспечыў духавенства адпаведнае ўтрыманне. У фундушовым запісе Рыгора Хадкевіча для заблудаўскай Успенскай царквы чытаем: *Жита коп 25 и ячменю коп 25 мает быть дано уставнику, который иж бы при церкви уставичне был установлен человек грамоте умелый и церкви пильный, а другую половицу того остатку тое десятины жита коп 25 а ячменю коп 25 мает приходити и давано быти мистру при костеле римском а они за то послуги свое костельное мают быти пильны и к тому мают на науце детей держати.* Тады ж ён заснаваў і друкарню, у якой беларускія друкары Іван Фёдараў, Пётр Мсціславец і Грынь Івановіч выдалі „Евангелле вучыцельнае" і „Псалтыр з часаслоўцам" — першыя друкаваныя кнігі на Падляшшы. У асобе Рыгора Хадкевіча *тадышнія рэлігійныя дзеячы бачылі аднаго з галоўных апекуноў праваслаўнай Царквы ў Вялікім княстве Літоўскім,* — заўважае вядомы даследчык мінуўшчыны Праваслаўя на Беласточчыне доктар Антон Мірановіч і працягвае: *Заблудаўская друкарня моцна паўплывала на паглыбленне нацыянальнай і рэлігійнай свядомасці ва ўсходнеславянскай грамадскасці.*

У апошнія гады жыцця Рыгора Хадкевіча пачаў сваю актыўную працу ў Заблудаве айцец Несцер Кузьміч — выдатны царкоўны дзеяч, змагар супраць уніі і ахвярны абаронца Праваслаўя. За сваю дзейнасць у 1609 годзе ён быў назначаны патрыяршым экзархам (інакш: намеснікам). Айцец Несцер звярнуўся да праваслаўнага духавенства і народу са спецыяльным пасланнем, каб ніхто не прызнаваў улады уніяцкага мітрапаліта Іпація Пацея і ўсе цвёрда стаялі пры сваёй веры праваслаўнай. Гэты ліст выдатна паўплываў на захаванне свае веры праваслаўнымі, асабліва на беларускіх землях, натхніў да выступленняў супраць уніі і да яе крытыкі.

У наступныя дзесяцігоддзі гэтую традыцыю Заблудава, як непахісна вернага Праваслаўю асяродка, падтрымлівала яго ўладальніца, княгіня малдаўская Марыя, жонка князя Януша Радзівіла. Гэтая сям'я была рознаканфесійнай: княгіня — глыбокаверуючая праваслаўная, а князь — кальвініст, але прыхільны Праваслаўю. Стаўшы ўладальнікам Заблудава ў 1640 годзе, князь Януш заснаваў у ім Успенскі манастыр. Пасля смерці князя манастыром і царквою вельмі дбайна заапекавалася княгіня Марыя. Яна забяспечыла іх усім неабходным, клапацілася пра належную працу школы і прытулку, у сваім тастаменце запісала ім значныя даходы з фальваркаў дзеля іх належнага існавання і дзейнасці. Асабліва важную ролю адыграла школа, якая рыхтавала праваслаўную моладзь на свядомых і стойкіх абаронцаў Праваслаўя.

На жаль, пасля смерці княгіні Марыі настаці цяжкія часы для заблудаўскага праваслаўнага асяродка і ўсяе згуртаванай пры ім праваслаўнай грамадскасці.

**Мікола Гайдук**

# У Кляшчэлях і Гародні

21 верасня г.г. была адкрыта польская школа ў Гародні. Ва ўрачыстасці прысутнічалі прэм'ер-міністры Польшчы — Уладзімеж Цімашэвіч і Беларусі — Міхаіл Чыгір. Польскае радыё, якое абняло патранатам новаадкрытую школу, правяло звыш трохгадзінную трансляцыю па першай праграме з гэтай падзеі. Беластоцкім беларусам вельмі цікава было паслухаць гэтую асаблівую радыёперадачу. Перад мікрафонам часта выступалі беларускія палякі. Калі б нехта з беластоцкіх беларусаў прадэманстраваў такую адданасць суседняй краіне, праўдападобна ўсе польскія сродкі масавай інфармацыі, і не толькі, звярнулі б увагу на гэты факт. Але ўсе межы дэмагогіі пераcягнуў варшаўскі каментатар Польскага радыё, які некалькі разоў паўтараў, што ў Гародні толькі цяпер адкрываецца першая польская школа, калі на Беласточчыне беларускія школы існуюць ужо дзесяткі гадоў, а сёння працуе 18 такіх школьных установ, у якіх каля 10 тысяч беларускіх дзяцей і моладзі вучыцца на роднай мове. Хаця беларускія палякі расказвалі пра навучанне польскай мовы, гісторыі і геаграфіі Польшчы ў Ваўкавыску, Баранавічах, Лідзе, Шчучыне, вядучы радыёперадачу маньякальна паўтараў, што ў Гародні адкрываецца першая польская школа. На Беласточчыне, як напрыклад у Кляшчэлях, дзе 21 верасня таксама пабывалі прэм'ер-міністры Чыгір і Цімашэвіч — паводле варшаўскага радыёкаментатара, — існуюць сапраўдныя беларускія школы. Калі па дзесяткаў дзетак дзве гадзіны ў тыдзень маюць факультатыўныя заняткі на роднай мове, тады школа такая называецца палякамі „беларускай".

Часта ў трансляцыі з Гародні вядучы радыёперадачу прыводзіў таксама гістарычныя факты. Гаварыў ён, што ў міжваенны перыяд у гэтым горадзе было 38 польскіх школ, хаця палякаў жыло тады ў Гародні менш, чым цяпер. Ні словам ён не заікнуўся, што на цэлай Гарадзеншчыне, дзе большасць насельніцтва складалі беларусы, не было ніводнай школы з беларускай мовай навучання, нават у такім выглядзе, як сёння на Беласточчыне.

Школа ў Гародні, як часта паўтаралася ў радыёперадачы, гэта ўстанова XXI стагоддзя. Польшча не шкадавала грошай на адукацыю сваіх суродзічаў у Беларусі. Моладзь у гэтай школе будзе пазнаваць такіх самых герояў, як іх равеснікі ў Познані, Кракаве, Варшаве. Толькі на беларускай зямлі традыцыйна не хапае месца для беларускіх школ. Тыя, якія ўзніклі пасля 1991 г., другі ўжо год пастаянна ліквідуюцца асветнай адміністрацыяй, якая знаходзіцца ў руках вертыкальшчыкаў. Беларускіх дзетак надалей будуць вучыць, што Сувораў і Баторый з'яўляюцца іх нацыянальнымі героямі.

**(рэд.)**

# Сустрэча з народам

Бельска-Падляшскага ў праграме польска-беларускага ўрадавага візіту не было. Бурмістр Андрэй Сцепанюк, аднак, пашкадаваў упусціць з рук такую нагоду і пераканаў арганізатараў паездкі, што снеданне высокім гасцям найбольш выгадна будзе з'есці менавіта ў яго. А за сталом можна намякнуць на патрэбы горада.

Калі картэж бліскучых машын, папярэджаны матацыклamі, з віскам сірэн імчаўся па вуліцы Міцкевіча, адзін дзядзька, што стаяў побач мяне ў натоўпе гледачоў, уголас заўважыў: „А яці тваю раз, вязуць як Майкла Джэксана". Іншыя лічылі машыны і гадалі, у каторай прэм'ер-міністр.

Зараз потым паліцэйскі сігнал адазваўся каля Прачысценскай царквы і дзве машыны з сінімі мігалкамі на дахах прапхнуліся туды і назад праз сяэточны тлум. Чаго яны там ездзілі, выявілася толькі пасля якіх сарака хвілін. Менавіта, устаючы ад стала, Уладзімеж Цімашэвіч пажадаў паказаць свайму беларускаму калегу праваслаўны фэст.

Абодва дзяржаўныя мужы, у акружэнні рослых ахоўнікаў, выйшлі з машыны да сабранага пад царквой народу. Гэта і стала галоўнай тэмай размоў святкуючых Прачыстую. Хтосьці сам бачыў прэм'ера, іншы ведае таго, што бачыў, а яшчэ іншы расказваў, як да Цімашэвіча падышла жанчына са скарбонкай і той даў ахвяру на царкву.

**М. В.**

# Ліст старшыні Беларускага Саюза ў Рэчы Паспалітай удзельнікам XXII Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амерыкі

Паважаныя Суродзічы! З нагоды Вашага з'езда прыміце ад беларусаў Беласточчыны пажаданні плённай і творчай сустрэчы на карысць усёй беларускай справы. Становішча, у якім апынулася Рэспубліка Беларусь; антыдэмакратычныя і антыбеларускія дзеянні ўлад хвалююць кожнага з нас, нягледзячы на месца пражывання. Дзякуем усім Вам за тое, што гадамі берaглі, баранілі і развівалі ідэю Беларускай Народнай Рэспублікі. Гэта дзякуючы Вашай няспыннай працы ўзгадоўвалася таксама і беларуская інтэлігенцыя на Беласточчыне. Мы са свайго боку, як Беларускі Саюз у Польшчы, прапануем у наступным годзе правесці на Беласточчыне Форум Лідэраў Беларускай Дыяспары, каб абмеркаваць нашы супольныя праблемы. Да сустрэчы. Жыве Беларусь!

З павагай і пашанай

**Яўген Вапа**
**старшыня Беларускага Саюза**

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ
№ 441

Рэдактар: Сакрат ЯНОВІЧ


Міра Лукша

**сьцяг**

з боку сьмеху
з боку плачу
сьцяжок іржавы
высушаны ветрам

**паказальнік**

адкуль бярэцца
у дарожным знаку
упэўненасьць і вера
толькі ў сябе

**ляк**

хто гэты чалавек
што п'е з майго келіха
адстаўленага чорным блазнам
пад яго руку

* * *

мы прабеглі паўз муры
кожны зь іх
мог быць мурам нашага
расстрэлу

**сын**

спатыкнуўся
пабіўся аб камень
ня ўпаў
не аглянуўся
ня ўзяў нічога

павалокся за ім
толькі цень

цень спаленай хаты

**дом**

дом зачыніў вусьце
наш дом якога не было
а можа нас не дачакаўся

**спадчына**

ці ад нас не застанецца толькі
сьметнікі лялек
з кулямі ў патыліцах

**крокі**

ідуць тыя
каму прыйсьці
па каменьні па гліне
на выстылых вуглях
палаючымі ступнямі

**хваля**

крык ненароджаных слоў
у ненароджаным часе
у пакінутым месьце
што яшчэ ня ўзьнікла

і мяне няма
можа ўжо іду
крокамі бяз ног
голасам бяз слоў

**кветка**

бессаромная краска
агаляе свой пол
гермафрадыта

нам здаецца:
вабіць нас і пчол
для свае красы
а ёй плод сьніцца
і насеньне на заўтра

**Лёс**

Толькі прыходзіць у сьвет драпежнікаў,
а бяззубыя вусны ўжо ў плямках чырвоных.
Ці абліжа іх дождж салёны?
Ці моцныя пальцы іржу ружжа аддзяруць?

Міхась Андрасюк

* * *

Восень. Восень развешвае толькі
смуткі і настроі
ў лясах і мястэчках.
Кажам: ростань, самота,
праміданне...
Праўда, а ўсё-ткі
дах свету нават
на слупах туманных
ляжыць бяспечна.

Восень. Восень стаўляе ў хмарах
бемолі
і хмары плывуць,
і дождж іграе басам
сырыя меланхоліі.
А заяц піша лірычны верш
(на адну лапу — адна метафара).
І жоўкне рыфмаваны лес.
І кропку над лесам стаўляе
крумкач.

Мікола Яцкоў

### Падручнік гісторыі

*А. Грыцкевічу*

Раскажы мне, цудоўная кніга,
пра вытокі маёй Беларусі,
хай гаворка струменіцца ціха —
я на шчырасць яе спадзяюся.

Хай старонкі пажоўклыя мовяць
пра шурпатасць карэнняў маіх, —
камячыцца ў душы маёй споведзь,
не хапае паветра на ўздых.

Раскажы, старажытнасці сведка,
як кахалі ў тыя часы,
як мужчыны кальчугі нярэдка
адзявалі не дзеля красы...

Хай звіняць цецівамі стагоддзі, —
я ў імглістую далеч зірну, —
сэрца песню складзе аб народзе,
што ў самай гаротнай нягодзе
сваю спіну ніколі не гнуў.

Алесь Чобат

* * *

Па дарозе з горада на правінцыю
спачуваю вялікаму князю Вітаўту,
які меў яшчэ што бараніць.

Што дзяліць з Ягайлам і князем Сямёнам.
Што даваць ваярам сваім улюбёным.
І каго праганяць. І каго цаніць...

Спачуваю вялікаму князю Вітаўту
па дарозе з горада на правінцыю —
князь, а колькі работы меў!

А цяпер у мяне і ў начальства нашага,
хоць і хамы мы, а нічога страшнага.
Вось адбыў сваю службу, прыйшоў, паеў...

Віктар Швед

## Сашнікі

***(Апавяданні з маёй маладосці)***

Падчас вайны таксама ў сялянскім побыце быў недахоп усяго. На адкладні і сашнікі да плугоў здольныя сяляне раздзяўблі, як гэта кажуць: да костачак, аграмадны савецкі танк, які салдаты, адступаючы ў сорак першым перад немцамі, пакінулі ў полі. Пакуль танк стаяў яшчэ някранутым, вясковыя дзеці ўлазілі ў яго вежы, спрабуючы выстраліць з гарматы, скіраванай якраз на нашу вёску.

Сашнікі майго плуга так збіліся, што каваль адмовіўся іх вастрыць. Трэба было шукаць сталі на новыя.

Пасвіўшы кароў ля чыгункі, прыкмеціў я, што ў вагоне, які саветы скінулі тады з рэек у адхон, каб прачысціць праезд цягнікам, знаходзяцца буферы са сталёвымі плоскімі пружынамі ўсярэдзіне. Падумаў, што з такой пружыны можна нарабіць сашнікоў. Агледзеў дакладна, якім спосабам можна выняць з буфера пружыну.

Прыйшоў я потым з братам да гэтага вагона. Захапілі мы з сабою молат і сталёвы шпень, для выбіўкі з таго буфера затычкі. Брат трымаў шпень на затычцы, а я біў молатам у той шпень; нарабілі страшэннае гаманы. Затычка выбівалася марудна.

Раптам пачуў я звон чыгуначнай маторнай дрызіны. Паспеў толькі азірнуцца, а яна была ўжо каля нас. На дрызіне ехалі два нямецкія вайскоўцы з аўтаматамі. Мы з братам шмыганулі ў блізкія карчы і пападалі. Над намі жыхнула аўтаматная чарга. Дрызіна, не затрымаўшыся, паехала далей, у напрамку Бельска-Падляшскага. Паляжаўшы, мы выйшлі з кустоў. Хуценька выбілі затычку з буфера і, дрыжачымі з перапуду рукамі, выцягнулі пружыну. Наша шчасце было бязмежнае!

Падбегам ішлі дахаты, несучы здабычу, з якой мясцовы каваль адбахаў нам аж некалькі сашнікоў. Хапіла іх да канца вайны.

Сакрат Яновіч

## Беларуская літаратура ў пасляваеннай Польшчы

Было вядома агульна, што шырэйшае знаёмства палякаў з беларускай літаратурай пачалося ў пасляваенныя часы. Вязалася гэта — несумненна — з прасавецкім у краіне ладам, адкуль бралася патрэба ў прэзентацыі пісьменнікаў Савецкага Саюза, а ў іх ліку і беларускіх. Рабілі тое спачатку тыя ж польскія літаратары, якія яшчэ ў даваенне сардэчна цікавіліся беларушчынай (прыкладам — Яворскі, Жыранік).

З часам з'явіліся літаратуразнаўчыя і, нават, навуковыя тэматычныя работы (асабліва ў шасцідзесятыя і паслейшыя, натуральна, гады). Але ніхто, як гэта не падасца дзіўным, не прыняўся за апрацоўку менавіта бібліяграфіі беларускай літаратуры ў Польшчы. Хоць было каму ўжо гэта кампетэнтна зрабіць; з другой паловы пяцідзесятых існуе Кафедра беларускай філалогіі.

І вось, амаль праз паўвеку, днямі выйшла з друку — у рамках бібліятэчкі „Белавежы" пад рэдакцыяй Яна Чыквіна — ***Literatura białoruska w Polsce. Bibliografia przekładów za lata 1945—1994.*** Аўтарка гэтага, фундаментальнага нам, даведніка, Гражына Харытанюк, яшчэ студэнтка, і зусім не беларускай філалогіі... І ў гэтым факце пацвярджаецца нейкая, даволі незразумелая, норма: першыя апрацоўкі пра ўспрынцце беларускай літаратуры ў Польшчы таксама напісаны іншымі, напрыклад, паланістамі беларускага паходжання. Сумнае сцвярджэнне, хаця, аб'ектывізуючы ўсю з'яву, аднachасна добра сведчыць тое пра зацікаўленне нашай літаратурай у польскіх асяроддзях, без чаго аказалася б немагчымай іх апрабацыя дзеля распрацоўкі беларусаведных тэмаў.

Гражына Харытанюк прагледзела сотні камплектаў часопісаў і газет, ды розных неперыядычных выданняў, шукаючы ў іх твораў беларускіх пісьменнікаў у польскіх перакладах. Знаходзіла ў такіх, на першы погляд цалкам нечаканых, публікатарах, як: „Politechnik", „Gazeta Żołnierza", „Sigma", „Spółdzielnia Produkcyjna", „Pomorze", „Rejsy", „Życie Akademii", „Zwierciadło", „Fortuna", „W służbie narodu". Імпануе і пералік перакладчыкаў, аўтараў уступных артыкулаў, ілюстратараў і рэдактараў: блізу **трохсот** чалавек! А дакладны лік публікацыяў — **тысяча шэсцьсот сорак пяць!** Усякіх — ад аднаго верша, ці апавядання, да падборак або кніжак.

Гэтыя даныя, шчыра кажучы, ашаламілі мяне ў рэшце рэшт няблага зарыентаванага ў польскіх беларусіках.

Напрыканцы шасцідзесятых гадоў усё часцей з'яўляюцца ў польскім друку пісьменнікі таксама „Белавежы"; першыя пераклады іх твораў знаходзім пад датамі ўжо 1964 і 1966 гг. Аналагічна, карыстаючыся тэрміналогіяй тых часоў — побач **савецкай** беларускай літаратуры нараджалася і **польская** беларуская, якая, праз пакаленне пасля, настолькі вызначылася, што сёння можна казаць пра Польшчу як пра краіну дзвюх літаратур, польскай і беларускай. Сэнсава апраўданым зрабілася тое разам з выхадам некаторых кніжак „белавежцаў" да еўрапейскага чытача, перш за ўсё ў зонах англійскай і італьянскай моў.

Не менш доўгі індэкс аўтараў, з творамі якіх пазнаёміў польскага чытача перакладчыкі — звыш **двухсот**! З „белавежскіх" — адзначаны: Баена, Артымовіч, Анішэўская, Барскі, Батура, Бурш, Бандарук, Чыквін, Генюш, Гайдукі (Мікола і Уладзімір), Раманчук, Сачко, Швед, Шатыловіч, Шаховіч, Свісёк, Склубоўскі, Танкевіч, Зубрыцкі...

Інфармацыйная фундаментальнасць кніжкі Харытанюк з месца робіць яе унікальнай зацікаўленаму чытачу і настольнай даследчыку. За гэта належацца словы пахвалы працавітай аўтарцы, як і яе навуковаму кіраўніку, Яну Чыквіну, нашаму ўдаламу старшыні „Белавежы", знакамітаму паэту, але і навукоўцу з прафесарскай плеяды Варшаўскага ўніверсітэта.

## Памёр Віктар Варашыльскі

На 69-ым годзе жыцця памёр Віктар Варашыльскі, выдатны польскі пісьменнік і дзеяч культуры, які шмат прычыніўся дзеля папулярызацыі беларускай літаратуры, даводзячы да польскага чытача лепшыя творы. Будучы ўраджэнцам Гродна і вучнем беларускай там школы, нашу нацыянальную мову лічыў Ён другой сваёй роднай.

**Сябры**

# Зорка

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# У Дубічах прыбіралі наваколле

Наша школа арганізавала акцыю „прыбірання свету". У аўторак, 17 верасня, як заўсёды прыйшлі мы ў школу, але пані дырэктар сказала, што будзем рабіць парадкі. Усе згадзіліся, а надвор'е было зусім нядрэннае. Некаторыя з вучняў адпаведна не падрыхтаваліся і трэба было паехаць дахаты, каб надзець горшую вопратку. Я амаль не спазнілася на аўтобус, які завёз нас на чыгуначны прыпынак у Вітаве. Вучні двух найстарэйшых класаў нашай школы пачалі збіраць смецце ў фольгавыя мяшкі, якія падараваў нам ляснічы, спадар Малмышка. Рэдка спатыкаецца такі чысты лес, што вельмі цешыла нас, вучняў. Калі пачыналі мы ўборку, хлопцы пайшлі па правай старане дарогі, а дзяўчыны — па левай. Так дайшлі мы пад Чэхі-Арлянскія, пакідаючы мяшкі са смеццем у вызначаным месцы. У нашай групе за парадкам сачылі настаўнікі: Уладзімір Місяюк, Ежы Несцярук і Славамір Кулік. Асфальтавай дарогай ішлі мы ў бок вадасховішча, што ў Дубічах-Царкоўных. Там прыбіралі сябры з малодшых класаў. Іх апекунамі былі настаўніцы Галіна Трашчотка і Барбара Дружба. Калі мы іх наведалі, высветлілася, што ў іх многа працы і нам трэба было дапамагчы. Неўзабаве мы скончылі працу, і тады распалілі вогнішча, на якім смажылі каўбаскі. Спадар Славамір Кулік зрабіў нам шмат здымкаў, а таксама конкурс з узнагародамі: зробленымі ім прыгожымі шапачкамі. Мне ўдалося выйграць адну з іх і вельмі цешуся. Ляснічы ў час адпачынку прынёс значкі з надпісамі: „Czysty las" і „Radio Białystok", якія атрымалі найбольш працавітыя дзеці. Адзін з тых падаркаў прышпіліў мне, гаворачы, што я заслужыла. Вельмі прыемна было пачуць гэта. Найактыўнейшыя хлопцы дасталі драўляныя алоўкі. Калі дагарала вогнішча, рашылі мы вярнуцца ў школу. Думаю, што людзі не павінны забруджваць зямлю. Многія нават не маюць намеру прыбіраць свае смецце.



*Дзеці з Кляшчэляў таксама прыбіралі сваё наваколле.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

**Ірэна Кулік**
**вучаніца VIII класа**
**ПШ у Дубічах-Царкоўных**

# Пішуць школьнікі

**Добры дзень, „Зорка"!**

Мы, вучні Пачатковай школы ў Орлі, вывучаем родную мову. Вучыць нас настаўніца **Анна Шыманская**. У нас ёсць прыгожы беларускі кабінет. У кутку **Залатыя рукі нашых продкаў** збіраем экспанаты з жыцця нашых дзядоў і прадзедаў. Мы вельмі любім урокі беларускай мовы. На ўроках мы чытаем казкі, рашаем крыжаванкі, загадкі, спяваем песні, малюем і складаем вершы. Вельмі любім чытаць „Зорку". Высылаем Табе свой верш і рысункі аб летніх канікулах.

### Канікулы

Канікулы, канікулы,
Час вясёлы быў.
Поле, лес нас клікалі —
Кожны з нас там быў.

У рэчцы мы купаліся,
Збіралі ягады і грыбы.
Гулялі, бегалі, смяяліся
Вясёла канікулы прайшлі.

І зноў мы сёння ў школе,
Пішам, вучымся і чытаем
Будзем добра працаваць,
Каб пяцёркі і шасцёркі здабываць.

З найлепшымі пажаданнямі
**вучні V класа**

Ад рэдакцыі: Прывітанне сябры! Жадаю вам адных шасцёрак у новым навучальным годзе.

**Зорка**

# Чыставік

Пашчасцілася Андрэю, першакласніку. Бацькі аддалі хлопцу пакой па старэйшым браце, студэнце.

— Гэта твой пакойчык, — сказала мама, — цяпер сам будзеш сачыць за парадкам. Калі будзе ў цябе непрыбрана, ты не атрымаеш грошай на свае фігуркі.

Андрэй ведаў, што бацькі стрымаюць слова. Хлопец вельмі любіў збіраць фігуркі і не мог дапусціць да сябе думкі, што магло б быць інакш.

Зразу з першага дня хлопец стаў старанна прыбіраць у сваім пакойчыку. Аднак гэты занятак хутка яму абрыд. Андрэй вынайшаў іншы спосаб. У адтуліну паміж сцяной і шафай кідаў усе паперы, агрызкі яблык, бананавыя скуркі.

Аднойчы ўначы разбудзіў яго плач. Хлопец разглянуўуся і пабачыў высокага чалавека ў белай вопратцы.

— Хто вы такі і як сюды ўвайшлі? — спужана спытаў хлопец.

— Я жыву ў кожным доме, лесе, полі, агародзе. Я — дух Чыставік. Мне радасна, калі ў дамах прыбрана, у лесе няма ніякіх смеццяў, а ў агародзе і на полі няма пустазелля. Калі дзе завядзецца бруд ці пустазелле, мне цяжка лётаць і хадзіць па свеце. Я тады стараюся рознымі спосабамі ўвайсці ў людское сэрца і разбудзіць любоў да чыстаты.

— Я ў сваім пакойчыку прыбіраю, — сказаў хлопец.

— Сапраўды? Ты ж цэлы месяц засмечваеш мой куточак.

— Гэта ж толькі адтуліна між шафай і сцяной.

— Гэта мой куток. Ты прыбяры яго, бо мне робіцца цяжка. Тваё смецце мяне засыпле. Я табе зараз пакажу, што гэта значыць.

Чыставік дзьмухнуў і ўсё смецце апынулася на ложку Андрэя. Хлопец пачуў непрыемны пах. Яго рукі і ногі сталі цяжкімі.

— Забярыце, спадар Чыставік, з мяне смецце, — прасіў Андрэй, — я ўсё прыбяру.

— Не. Ты сам пабач, якое непрыемнае смецце. Пераначуй з ім, а пасля прыбірай, — сказаў Чыставік і знік.

Андрэй хацеў устаць, але не мог падняцца. Хацеў паклікаць бацькоў і сясцёр ды братоў на дапамогу, але не мог крычаць. З вачэй пацяклі слёзы. Калі хлопец прачнуўся, быў сонечны дзень. Ложак быў чысты. Толькі ў адтуліне, як і раней, ляжала смецце. Андрэй хуценька ўсё прыбраў. З той пары ён дакладна прыбірае пакойчык.

**Ірэна Салавей**




*Зноў пачаўся школьны год.* Мал. Паўла КУБАЕЎСКАГА, сямікласніка з Орлі.

# Загадкі і адгадкі

***(з народнага)***

А што бяжыць без повада?
— Вада!
А што гарыць без полымя?
— Зара!
А што расце без кораня?
— Камень!
А што бяжыць пaглядаючы?
— Звер!
А што чорна не чарнёна?
— Варона!
А што сіня не сінёна?
— Мора!
А што бела не бялёна?
— Лебедзь!
А што ўецца паміж дрэўца?
— Хмель!




*Міхась Рамашка з Беластока.*
Фота Галіны РАМАШКІ

# Сябры з Навасад

У школе ў Навасадах, што каля Гайнаўкі, вучыцца 46 дзяцей. Там толькі частка — класы I-III — Пачатковай школы ў Дубінах. Паколькі дзеткі з навакольных беларускіх вёсак: Дубін, Навасад, Барысаўкі, Сарочай Ножкі, Бельшчыны, Звадзецкага, Пасталова, дык і ўсе з другога класа вывучаюць беларускую мову.

Роднай мове навучае іх пані Надзея Гаган, якая апрача ўрокаў вядзе гурток беларускай мовы. На гуртку дзеці развучваюць песні, вершы, рыхтуюць мастацкія часткі на школьныя ўрачыстасці. Калі добра атрымаецца, дык паказваюць іх не толькі сябрам і бацькам у сваёй школе, але і ездзяць у суседнія. Летась, на аглядзе тэатральных калектываў у Гайнаўскім доме культуры, за п'есу „Ой там на лузе" атрымалі нават узнагароду.

Настаўніца хваліць сваіх вучняў. Кажа, што яны ахвотна наведваюць гурток, любяць заняткі па беларускай мове, любяць пазнаваць новыя казкі, цікавыя апавяданні. Цяпер у парожнім пакойчыку ў школе рыхтуюць этнаграфічны куточак. Дзеці прыносяць з дому розныя старыя рэчы: вышыўку, ткацкія вырабы, прылады, якімі карысталіся іхнія дзядулі і бабулі. Адкрыць выстаўку хочуць у наступным месяцы. „Зорка" пастараецца вам яе апісаць.

**Мікола Ваўранюк**



*Дзеткі з трэцяга класа.* Фота Міколы ВАЎРАНЮКА

## Вершы Віктара Шведа

### Дзіравая іголка

Нават жалезная апратка
Была б не вечнай Лёніку.
Надзвычай добранькая матка
Сынку цыруе штонікі.

Гарэза Лёнік разважае:
— Вось справа цікавая.
Іголка дзіркі ўсе сшывае,
А сама дзіравая.

### Зямля круціцца — сказаў Капернік

Настаўніца на ўроку
Спытала спакваля:
— Хто там круціцца, абібокі?
Азваўся нехта: — Зямля.

Настаўніца злуецца,
Такія ў класе церні.
— Хто гэта сказаў, дзеці?
Чуе адказ: — Капернік.

### Поры года

Вясна прыгожа расцвітае,
Ды на дары людзям скупая.
Гарачае надзвычай лета
Спеліць плады ўсяму свету.

А шчодрая заўсёды восень
Плады ў дамы людзям прыносіць.
Зіма са снегам, маразамі,
Корміцца восені пладамі.

# Нечаканы спектакль

Над вёскай стаяў цёплы жнівеньскі поўдзень. Як кожны летні дзень, быў ён працавіты. Людзі вазілі збожжа, атаву. Толькі старыя бабулі і дзядулі сядзелі на лавачках і ўспаміналі мінулае.

Неспадзявана каля маёй хаты затармазіла машына. Выйшлі з яе трое мужчын. Двое незнаёмых аказаліся журналістамі Польскага тэлебачання, трэцім быў вядомы тэатрал Ян Мордань. Ён добра ведаў мае вершы і прозу і да іх зацікаўленне. Сказаў таксама, што ён спецыяльна выбраў трасу паходу тэатра „Жывое слова" цераз вёску Маліннікі. Вандроўны тэатр складаюць студэнты з Менска. Мяне зацікавіла газетка „Вандроўнае слова", а ў ёй — гісторыя навакольных вёсак. Ян Мордань запрасіў мяне на спектакль тэатра. З вялікай ахвотай накіраваўся я ў вясковую святліцу. Там я пазнаёміўся са студэнтамі і з журналістам „Нівы" Алегам Латышонкам. Неўзабаве з'явіўся журналіст Беластоцкага радыё Яраслаў Іванюк. Паміж усімі прысутнымі завязалася гутарка.

Пасля ўсе студэнты пайшлі па галоўнай вуліцы Маліннік, раздаючы жыхарам экземпляры „Вандроўнага слова" і запрашаючы іх у вясковую святліцу. Менскія акцёры затрымаліся пры двух хатах: Сцяпана Копы — акампаніятара Гарадоцкага хору, і Міхала Іванчука — войта Арлянскай гміны.

Вярнуўшыся з паходу, акцёры пачалі выступленне. Спачатку прагучэлі песні „Дубін", затым ставілася сцэнка паводле рамана Івана Мележа „Людзі на балоце". Гледачоў найбольш рассмяшылі гумарэскі „Экзамены", „Казкі Бая" і „На пероне". Зацікаўленне ў гледачоў выклікала таксама сцэнка „Доктар". У наймалодшых вялікае ўражанне пакінула казка „Журавель і чапля".

Выступленне тэатра „Жывое слова" працягвалася амаль да поўначы і суправаджалася гарачымі воплескамі. Калі арганізатар мерапрыемства Ян Мордань спытаў у гледачоў: „Як вам падабалася наша выступленне?", вясковыя жанчыны аднадушна выгукнулі: „Яно нас проста зачаравала!"

**Юрка Буйнюк**
**кл. I „б" Белліцэя**
**ў Бельску-Падляшскім**

*Фальклорныя цікавінкі*

# Пакровы

На працягу мінулага года мы пісалі пра веснавыя і летнія старажытныя абрады і звычаі. Сёння пазнаёмімся са святам вельмі важным — Пакровамі. Гэтае восеньскае свята завяршыла каляндарны абрадавы год. Яго святкавалі нашы продкі ў гонар Маці-Зямлі. У час свята людзі дзякавалі за ўдалыя, спелыя ўраджаі, пасевы азіміны, мінулае лета і вясну.

Нашы продкі верылі, што на Пакровы ў прыродзе адбываюцца важныя змены. Пакроў „замыкала" на зіму зямлю, якую вясной будзе адмыкаць св. Юрый. Пасля Пакроваў ніхто ўжо не мог знайсці скарбу. Здавалася б, што надышоў сумны ды нецікавы перыяд.

Аднак нашы продкі не сумавалі. На Пакровы часта ладзілі вяселлі. Бывала, што вяселлі здзяйснялі хутка і складна. З гэтым звычаем павязанае і свята Івана Багаслова. Тады звычайна сваталі дзяўчыну. Тут трэба адзначыць, што Івана выпадае 9 кастрычніка, а Пакровы святкуюць ужо праз пяць дзён. У восеньскіх песнях сустракаем такія менавіта матывы:

„Святы Пакроў накрыў....
рыбу лускай, дрэвы карой,
птаха пер'ем, дзеўку вянком".

Сённяшнім часам Хрысціянская царква святкуе гэты дзень у гонар Маці Божай. Царква ўшаноўвае падзею, якая адбылася ў 910 годзе ва Улахернскім храме ў Канстанцінопалі. Перад калекам Андрэем і яго вучнем Епіфаніем паўстала Божая Маці і, узняўшы над імі пакрова, звярнулася да Бога з малітвай аб уратаванні свету і збавенні людзей ад няшчасцяў.

**Зорка**

# Залаты век у гісторыі Беларусі

Найбольш буйны перыяд у развіцці культуры ў Беларусі гэта XVI стагоддзе. У выніку дзейнасці беларускіх друкароў, а перш за ўсё Францішка Скарыны, ідэі еўрапейскага Рэнесансу і Рэфармацыі сталі агульнавядомымі для тагачаснай беларускай эліты. У гэтым стагоддзі ўзнікла ў Беларусі шмат усялякіх навучальных устаноў. У Вільні, Нясвіжы, Берасці, Лоску, Любчы, Цяпіне, Венграве працавалі друкарні, а вакол іх стваралісія літаратурныя школы. Творчасць беларускіх друкароў была вядомая ў краінах Заходняй Еўропы і ў Маскоўскай дзяржаве. Найвышэйшы ў маштабе Еўропы ўзровень дасягнула беларуская еўрапейская думка. Статуты Вялікага княства Літоўскага былі ўзорам для пабудовы заканадаўчай сістэмы ў шматлікіх еўрапейскіх краінах. Знакаміта развіваліся такія навукі, як гісторыя, геаграфія, медыцына, матэматыка, астраномія.

Эпоха Рэнесансу ў Беларусі назначана высокім уздымам у галіне мастацтва. Узніклі тады першыя прафесійныя тэатры, арганізаваліся музычныя калектывы, а жывапіс дасягнуў найвышэйшага ўзроўню.

У XVI стагоддзі, як ніколі раней ні пазней, развіваліся гарады ў Беларусі. Тады менавіта ўзніклі найвышэйшыя помнікі нашай архітэктуры: Свята-Духаўская царква ў Кодзені, Барыса-Глебская царква ў Навагрудку, абарончыя цэрквы ў Супраслі, Мураванцы і Сынковічах, касцёлы святой Ганны і бернардынцаў у Вільні, абарончыя сістэмы замкаў у Міры, Нясвіжы, Навагрудку. Усяму гэтаму спрыяла знакамітая сітуацыя гаспадаркі Беларусі тае эпохі.

# Сава і дзяцел

Сябравалі некалі сава з дзятлам. Было ўсё добра. Але вось аднаго разу не паспела яшчэ як след развіднець, а дзяцел ужо ўхапіўся за работу. Ён так забарабаніў па старой хвоі, аж рэха пайшло па ўсім лесе. У гэты час яго суседка сава толькі ўкладвалася спаць. Раззлавалася сава і кажа дзятлу:

— Ці маеш ты розум, не дасі мне спакойна паспаць.

Здзівіўся дзяцел, як гэта днём ды спаць. Не паслухаў ён саву, і зноў узяўся за сваю работу. Мінуў дзень, настала ноч. Усе дзятлавы сваякі моцна заснулі. Заснуў і сам дзяцел. Але раптам ён пачуў крык савы. Узлаваўся дзяцел ды кажа:

— Чаго ты мяне пужаеш, ідзі спаць!

Але сава не паслухала дзятла, як дзяцел не паслухаў саву. І так у іх пайшло дзень за днём, ноч за ноччу: ні дзяцел, ні сава з таго часу не могуць спаць спакойна.

# Польска-беларуская крыжаванка № 40

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 36. Лозунг: Плавальны басейн.

Узнагароды — альбомы для здымкаў — выйгралі: **Аня Паплаўская** і **Марко Цiванюк** з Беластока. **Віншуем!**

garaż
przewodnik stada
kino
malec
wygląd
cena
atu
rożek
kłamstwo
tępy nabój



Талон „Зоркі" № 40
06.10.1996

# Быць гаспадаром культуры

**У першую гадавіну сваёй дзейнасці на пасадзе дырэктара Аддзела культуры, спорту і турызму Ваяводскай управы ў Беластоку Казімеж Дэркоўскі склікаў на сустрэчу журналістаў.**

Не было на гэтай пасадзе другога такога дырэктара, сцвердзілі сабраныя, які б так супрацоўнічаў з медыямі. Сам запрашае, інфармуе, падказвае, а, калі можа, нават падвозіць журналістаў на тое ці іншае мерапрыемства.

Дырэктар напамінае нам, што паставіў сабе мэту быць гаспадаром культуры ваяводства, і гэта не проста дэкларацыя, а факт. На працягу першага года працы, ад 1 верасня 1995 года, ён наведаў 43 гміны ваяводства, 108 дзён працаваў па-за сядзібай Ваяводскай управы. Бываў на сесіях рад, на пасяджэннях упраў у паасобных справах, на выбарах дырэктараў гмінных асяродкаў культуры. Выязджаў на культурныя мерапрыемствы, але былі і інтэрвенцыйныя візіты, а таксама дапаможныя — пры апрацоўцы розных канцэпцый культуры.

Пры ўсім навале спраў, звязаных з культурай у гарадах (тэатры, музеі, філармонія, гарадскія бібліятэкі) ды спортам і турызмам, на першае месца ў працы дырэктара Дэркоўскага высоўваецца гміна.

**Рэйтынг гмін** — гэта менавіта яго аўтарская ідэя, якая выспела яшчэ ў 1994 годзе, калі ён быў дырэктарам ВААКу. Да рэйтынгу прыступіла 21 гміна, а нас асабліва цешыць, што сярод іх большасць гэта гміны з беларускім насельніцтвам — Белавежа, Бельск-Падляшскі, Нарва, Нараўка, Чыжы, Саколка, Дуброва-Беластоцкая, Новы Двор, Кузніца, Сямятычы, Чаромха, Нурэц-Станцыя, Міхалова. Значыць, гэтыя гміны адчуваюць сябе моцнымі ў культуры. У студзені 1997 года адбудзецца падсумаванне рэйтынгу.

Якая сёння ў нас гміна? Здаровая ў сэнсе самаўправы, гаворыць дырэктар. Многія маюць свае сцягі, гербы, мясцовыя газеты, характэрныя толькі ім мерапрыемствы. На месцы вырашаюцца справы, звязаныя з кадрамі, канцэпцыямі, ідэямі. Шкада, што ў некаторых гмінах сочаць толькі за тым, каб былі водаправоды, добрыя дарогі і школы, а справы культуры пакідаюцца на „пасля". Там аднак, дзе ёсць лідэры і захаваліся традыцыі, там дбаюць пра развіццё культуры ў сваім асяроддзі.

Дырэктар Дэркоўскі вельмі хваліць у гэтых адносінах Гайнаўскую і Чыжоўскую гміны. Пабудаваны нядаўна вясковыя дамы культуры ў Шастакове і Трывежы. Войт Чыжоўскай гміны Рыгор Мацкевіч надта дбае пра свае вёскі і іх жыхароў. Таксама і Вольга Рыгаровіч, войт Гайнаўскай гміны.

Заўважаецца культурнае ажыўленне ў гміне Нурэц-Станцыя. Нядаўна там адбыліся хрысціны тамашняга мастацкага калектыву, які назваўся „Вясёлкай".

Вельмі цікавыя ідэі ў культурнай дзейнасці назіраюцца ў Бельску, дзе ёсць моцная ініцыятыўная група на чале з Яўгенам Вапам і Дарафеем Фіёнікам. У конкурсе „Малых айчын", які ўжо некалькі гадоў вядзе Фонд культуры, іх праект „Бельск-Падляшскі — сэрца пагранічча" сярод 114 праектаў быў выбраны ў лік дванаццаці фінальных праектаў. Канчатковыя вынікі конкурсу будуць вядомы 8 снежня 1996 года.

Таксама і Нараўка паслядоўна рэалізуе свае планы ў культуры. Выйграла ў Турніры гмін, што ў жніўні адбываўся ў Гарадку ў рамках сустрэч Гаспадарчай уніі гмін „Прагрэс XXI" (у мінулым годзе такая прэзентацыя гмін адбывалася ў Нараўцы, а ў будучым годзе пройдзе ў Чорнай-Беластоцкай).

Не злічыць пачынанняў у беластоцкай культуры. Датацый дзяржавы, аднак, замала. Не хапае прынамсі 34 мільярдаў старых злотых, асабліва на аднаўленне матэрыяльнай базы. Дае надзею на будучыню так званая **параметрызацыя**. Канвент ваяводаў у справе культуры запрапанаваў новыя крытэрыі размеркавання фінансавых сродкаў на культуру. Справа трапіла ў Сейм. Сродкі павінны былі б размяркоўвацца паводле такіх крытэрыяў, як кольказсць устаноў культуры, прыгранічнасць, акадэмічнасць, якасць і колькасць помнікаў.

Дырэктар беластоцкай культуры лічыць, што ў 1999 годзе гэтая сістэма поўнасцю ахопіць датацыі на культуру. Тады ў нас узровень датацый узрасце да 140 працэнтаў. Калі мы сёння на пятнаццатым месцы, дык маем шанц апынуцца на трэцім.

Дырэктар Дэркоўскі не любіць спыняцца на паўдарозе. Усё хоча ўбачыць на ўласныя вочы, да ўсяго дакрануцца. Едзе асабіста ў найменшую вёску, калі пачуе пра нейкія новыя культурныя ініцыятывы. Гаворыць з людзьмі не толькі як дырэктар, а як добры сябра, дарадчык, які збірае па зярнятках тое на вёсцы, што тэарэтычна ў новых умовах паволі стасцца непатрэбным.



Менавіта пра гэта будзе гаварыцца на ваяводскім сейміку культуры вёскі, які адбудзецца 7—8 кастрычніка г.г. Ці культурныя традыцыі яшчэ жывуць на вёсцы, ці апынуліся ўжо ў скансэне, што будзе з адміраючымі прафесіямі і г.д. і т.п.

**Ада Чачуга**

*Фота аўтара*

P.S. Калі праз некалькі дзён дырэктар ехаў да мастакоў у Белавежу, затрымаўся там усяго на гадзінку, а пасля, па нашай прапанове, рашуча павярнуў на Бельск. У Дарка Фіёніка, у яго хатцы ў Студзіводах, ахвотна правёў некалькі гадзін. І меў аб чым гаварыць!

# Слава юбілярам!

Год 1996 прынёс для беларусаў амаль самыя юбілеі: саракагоддзе Беларускага грамадска-культурнага таварыства і „Нівы", -годдзі нашых паэтаў і празаікаў — Надзеі Артымовіч, Васіля Петручука, Сакрата Яновіча і Уладзіміра Гайдука.

Напэўна кожны з юбіляраў меў розныя перыяды ў жыцці. Былі ў іх радасці і смуткі, не бракавала ўзлётаў і горкіх няўдач. Толькі цяпер ім жывецца нядрэнна.

Васіль Петручук пражыў цяжкія гады дзяцінства, а і маладосць не была такая, як у яго аднагодкаў. Толькі пасля прызыву ў армію адмяніўся ягоны лёс. Гэта дрэнна, калі дзяцінства пакідае жудасныя ўспаміны.

Мне здаецца, што цяпер найгорш жывецца Уладзіміру Гайдуку з хутара Тарнопаль. Яму выпаў лёс адзінока абрабляць гаспадарку. Напэўна нялёгка яму самому. Шкада, што мала ягоных вершаў паяўляецца ў друку. У інтэрв'ю („Ніва" н-р 36 ад 8 верасня г.г.) сказаў ён Сакрату Яновічу, што таму не пасылае сваіх вершаў у друк, бо калісьці яго творы караціліі, папраўлялі, перараблялі. Аднак хацелася б чытаць новыя вершы майго земляка, хаця — прызнаюся шчыра — я ніколі яго з блізка не бачыла.

Усім юбілярам жадаю моцнага здароўя і шчасця, удачы ва ўсім, што толькі задумаюць рабіць, каб душою заўсёды былі маладыя, а іх творы жылі тысячы гадоў у сэрцах беларусаў і выклікалі зацікаўленне ў людзей іншых нацыянальнасцей. Хай заўжды дзейнічае БГКТ і існуе „Ніва" — першая ў пасляваеннай Польшчы газета на беларускай мове!

**Аўрора**

Адгалоскі

# Ці трэба завозіць культуру?

Нарэшце Грыша Мароз, актыўны калісь карэспандэнт „Нівы", адазваўся публічна інфармацыяй, што „Лявоны" наведалі Старое Беразова („Ніва" н-р 37 ад 15.09.1996 г.). Цешыць, што шматгадовы карэспандэнт піша ў наш тыднёвік і можна даведацца яшчэ пра жыццё і штодзённую турботу і радасці працавітых сялян. Але не вельмі разумею аўтара, калі ён піша „што прывезлі (значыць Янка Сычэўскі і Валя Ласкевіч — М. К.) нам хаця жменьку роднай культуры". Значыць, у Старым Беразове няма ўжо роднай культуры і трэба яе завозіць, ці як? Мне здавалася, што родная культура існуе яшчэ на вёсцы, зусім не апалячаная, і вазіць яе з горада не трэба. З карэспандэнцыі вынікае, што на ніве народнай культуры ў вёсках Беласточчыны пустыня, а яе аазісам з'яўляецца БГКТ. Не ведаю, чаму такая думка бытуе ў народзе, хаця ёсць яшчэ іншыя аазісы народнай культуры, як хаця б „Белавежа", „Ніва", „Czasopis", Беларускае гістарычнае таварыства, школы з беларускай мовай навучання, гмінныя асяродкі культуры, некаторыя цэрквы са свядомымі сваёй беларускасці святарамі, беларускія — радыё- і тэлеперадачы, навуковыя ўстановы, культурныя арганізацыі беларусаў. Але няхай ужо будзе так, як прапагандуюць у народзе дзеячы БГКТ, што яны — адзіныя сейбіты народнай культуры на фэстах, хаця гэта пярэчыць фактам.

Вядома, кожны носіць свой штодзённы горб, і не так ужо лёгка пражыць цяпер з дня на дзень, але каб пісаць што „мужыку на вёсцы не хапае гумару, песняў і жартаў" — гэта надта смелы вывад, мякка кажучы. І адкуль аўтар ведае, што ў народзе самое нараканне? Калі ўважліва паглядзець навокал, то відаць, што вёскі прыгажэюць, конікаў з драбінчастымі вазамі са свечкай шукаць, пісьманосцы рэнты пастаянна прыносяць, хлеб і да хлеба прывозяць, зямля аблогам не ляжыць, абсталяванне машынамі гаспадарак поўнае. Апрача водапровода Старое Беразова і Махнатае (не ведаю як іншыя вёскі) будуць мець ачышчальню сцёкаў. Прагрэс наступае. Відаць гэта простым вокам. А што мужыкі наракаюць?! Наогул заўсёды наракалі, і пэўна будуць наракаць. Усё гэта ўзялося ад адпаведнай дзяржаўнай палітыкі. Няпраўда, што такая адпаведная палітыка, якая вядзе да прагрэсу, не залежыць ад мужыкоў на вёсцы. Аўтар сам з'яўляецца гмінным радным, то ведае, што гмінная рада мае вялікі ўплыў на гмінную палітыку. Затым пытаю, якой палітыкі і перадвыбарных абяцанняў мужык мае па горла? Той з Варшавы, Беластока, ці той з Гайнаўкі?

Скажыце, спадар Мароз, з рукой на сэрцы, чаму ў вас „цяпер адзіная разрыўка — гэта беларускі фэст"? Умовы для культурных мерапрыемстваў у Старым Беразове маеце. Харошы, аграмадны дом культуры можа служыць не толькі раз ці два ў год для арганізацыі фэсту? Ці трэба чакаць, каб хтось прыехаў і сарганізаваў вам разрыўку? Чаму не. Можа прыехаць, але цяпер усё каштуе. Можна наладзіць нават прыезд і Майкла Джэксана, не кажучы пра Марылю Радовіч, але хто гэты прыезд сфінансуе? Хто?

**Міхась Куптэль**

P.S. Цікава, ці паслы Плева і Малішэўскі былі на фэсце? Нічога аб гэтым карэспандэнт чамусьці не піша.

III Фестываль нацыянальных меншасцей у Гданьску

# Далёка нам да ідэалу!

Гданьск — гэта асаблівы горад, калі гаварыць пра нацыянальныя меншасці. Жывуць тут украінцы, кашубы, яўрэі, літоўцы, мусульмане. Другой, самай вялікай па немцах меншасцю з'яўляюцца тут беларусы.

**Лена Глагоўская** — старшыня Беларускага культурнага таварыства „Хатка" — гаворыць без энтузіязму пра тысячу этнічных беларусаў. — Большасць з іх ужо асімілявалася, — сцвярджае спадарыня Глагоўская. Гданьскія беларусы, дарэчы, напамінаюць больш эміграцыю, чым нацыянальную меншасць. Аб'ядналыя вакол „Хаткі" беларусы праваслаўнага і каталіцкага веравызнанняў. Такога не сустракаем у Гайнаўцы ці Беластоку!

У Гданьску рэгулярна святкуюць угодкі БНРу, праводзіць рэпетыцыі жаночы хор „Жаваранкі, раз у тыдзень адбываюцца тут урокі беларускай мовы для дзяцей.

— Працу таварыства аслабілі клопаты з памяшканнем, — гавораць спадарства Мацкевічы. — А калісь то мы нават вяселлі там спраўлялі, — успамінаюць яны непаўторную атмасеру беларускага клуба.

— Трэба спадзявацца, што неўзабаве высветлім становішча памяшкання для „Хаткі", — сказаў Анатоль Бутэвіч, консул РБ, які сам заангажаваўся ў гэтую справу.

Памяшканне „Хаткі" закрыта ад чэрвеня г.г.

— Свае мерапрыемствы ладзім у старамейскай ратушы або універсітэце, — гаворыць Л. Глагоўская. Гданьскія беларусы не ўяўляюць свайго рэальнага існавання без клуба. Нават цяпер, калі закрыта памяшканне, падтрымліваюць яны сяброўскія кантакты.

— У нас людзі любяць сустракацца нават без асаблівай нагоды, — гавораць яны.

* * *

**Ідэалам грамадскага сужыцця для нацыянальных меншасцей ёсць сітуацыя, калі большасць думае пра меншасць так добра, як пра сябе.**

Да такога вываду дайшлі нямецкія і дацкія эксперты па нацыянальных меншасцях. Яны прадставілі юрыдычны і грамадскі статус сваіх меншасцей у Шлезвіг-Гольштэйне і Даніі. Эфектам палітыкі да нацыянальных меншасцей ёсць адсутнасць асіміляцыі. Назіраецца нават невялікі рост дацкай меншасці. Дацкі інстытут культуры ў Гданьску, суарганізатар III Фестывалю нацыянальных меншасцей, як адзначыла дырэктар гэтай установы **Альдона Шыфман**, хацеў паказаць польскім меншасцям прыкладнае функцыянаванне меншасці і большасці.

— А ў нас, — гаварыў прафесар Універсітэту Марыі Кюры-Складоўскай у Любліне **Гжэгаж Януш**, — меншасці асацыююцца з фальклорнымі калектывамі. Ёсць і такія меншасці, якія маюць цяжкасці з называннем сваіх патрэб.

— Пакуль не будзе запісаў пра нацыянальныя меншасці ў канстытуцыі, — гаварылі прадстаўнікі меншасцей, — датуль не будзе шансаў на грунтоўныя, надзейныя змены. Усе наракалі на асіміляцыю і безнадзейную сітуацыю сваіх меншасцей.

Другім цікавым момантам фестывалю быў паказ новага фільма **Анджэя Мэліна** пра немцаў-гданьшчан. **„Ich bin ein Danziger"** — фільм сугучны з дацка-нямецкім ідэалам думання пра меншасці. Немцы ў фільме Мэліна — звычайныя, занятыя штодзённымі клопатамі, людзі. Іх успаміны пра даваенныя і пасляваенныя гады тлумачаць сённяшні стан гэтай нацыянальнай меншасці. Фільм падабаўся самім немцам.

— Пасля гэтага фільма, — гаварыў іншы гданьшчанін, паляк, — я змяніў свой погляд на меншасці. Я зразумеў, што кахаючы адзін горад, мы можам быць блізкімі сабе людзьмі.

На жаль, наша меншасць не дачакалася яшчэ такога фільму, які б так пазітыўна адмяніў беластачан-палякаў.

— На такі фільм чакалі мы сорак гадоў, — сказаў старшыня Саюза немцаў у Гданьску **Ульрых Нойбаўэль**. У згаданым саюзе больш за чатыры тысячы членаў.

Пераважаюць пенсіянеркі, — кажа дзяўчка **Адэлаіда Аравец**. Яна кіруе нямецкім клубам у Гданьску. Людзі сустракаюцца там, каб успамінаць добрыя часы, каб паспяваць свае песні, або пагаварыць пра свае праблемы.

Робім усё, каб хаця ўнукаў навучыць нямецкай мове, — гаворыць спадарыня Аравец. Сярэдняе і маладое пакаленні немцаў не ведаюць ужо роднай мовы. Многія дзеці сеніёраў нямецкага клуба з'яўляюцца ўжо грамадзянамі Нямеччыны. Дарэчы, і дзейнасць клуба фінансуе нямецкая дзяржава.

* * *

Не надта ўдала выйшаў агляд мастацкай творчасці нацыянальных меншасцей. Вялікая ў гэтым віна арганізатараў. Многія госці наракалі на недахоп зацікаўлення іхняй прысутнасцю і бязладдзем. Гаварылася нават пра „украінізацыю нацыянальных меншасцей". Справа ў тым, што украінцы, як галоўныя арганізатары, цікавіліся толькі сваімі гуртамі і гасцьмі, якіх дарэчы было найбольш. Выходзілі яны з залы разам са сваімі артыстамі, пакідаючы расстроеныя гукаўзмацняльнікі і не надта вялікую публіку. Невядома для каго выступалі меншасці, якія прыехалі без сваёй публікі. Ромскі гурт „Дон Васыль", калі пачаў выконваць disco polo (а дакладней disco romo) выклікаў свісты. Без энтузіязму прынялі ўкраінцы сваіх новых суродзічаў з Падляшша. Гэтыя артысты вегетавалі таксама, як і беларусы — у інтэрнаце без цёплай вады. „Вядро" з Бельска-Падляшскага наракала на гукаўзмацняльную апаратуру. Іх канцэрт агледалі адны беларусы. Зважаючы на сціплы лік гэтай публікі, музыканты з „Вядра" слушна наракалі на *дрэнтвую* залу. Даволі добра выступілі дзяўчаты з Гайнаўскага ліцэя. У час іх канцэрту на Доўгім Таргу раптоўна пабольшылася публіка са шпацыруючых гданьшчан. Іх выступленні атрымалі самыя вялікія апладысменты. Таксама ўдала і сімпатычна паказалася Аня Анташэвіч з Беластока. На жаль, мела яна толькі адзін канцэрт, які, дарэчы, распачынаў фестываль. Бясспрэчнай зоркай фестывалю была яўрэйка **Ханэ Нусбаўм**. Разам з гуртам „Шпілёкернэ" навялі яны найбольш інтэграцыйную і мілагучную атмасферу. Згаданыя артысты прадстаўлялі яўрэйскую меншасць з Даніі. Дарэчы, і гэты гурт прыехаў па запрашэнні Дацкага інстытута. Найбольш супярэчлівай з'явай фестывалю была непрысутнасць другой стараны — палякаў. Далёка нам да нямецка-дацкага ідэалу думання аб меншасцях.

**Ганна Кандрацюк**

*Фота аўтара*



*Злева: Юрка Шульскі, консул РБ Анатоль Бутэвіч, д-р Лена Глагоўская і Івона Чайко з Дацкага інстытута культуры.*



*Ханэ Нусбаўм — яўрэйка з Даніі.*

# Фэст у Новым Дворы

Бязвоблачнае неба ў нядзелю 22 верасня г.г. было насычана нечаканым асеннім холадам. Таму перадапошні ў гэтым годзе фэст, арганізаваны ГП БГКТ у Новым Двары, што на Дуброўшчыне, адбыўся не на ўлонні прыроды, а толькі ў зале мясцовага дома культуры.

Арганізатары хваляваліся. З планаваных шасці мастацкіх калектываў на фэст прыехалі толькі тры. Не паявіліся маладзёжныя калектывы з Белавежы, эстрадныя калектывы „Гранд" з Грабянёў і „Сальвадор" з Дубровы-Беластоцкай. Не прыехалі таксама, відаць змучаныя штотыднёвымі выездамі на беларускія фэсты, вядомыя паслы Сейма Рэчы Паспалітай.

Фэст адкрыла сакратар ГП БГКТ Валянціна Ласкевіч. Успомніла яна галоўныя мерапрыемствы, арганізаваныя Беларускім таварыствам у юбілейны саракавы год яго дзейнасці. А потым павяла двухгадзінны канцэрт. Выступілі: хор Гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку пад кіраўніцтвам Віктара Маланчыка з Гародні; жаночы калектыў „Журавінкі" з Агароднічак, што пад Супраслю пад кіраўніцтвам Ніны Аўгустыновіч і калектыў „Цаглінкі" са Старога Ляўкова. Гэты апошні калектыў ужо не зусім жаночы, таму што спяваюць у ім Віктар Балтуноў і Мікалай Мажэнны, які таксама падпявае акампаніруючы калектыву на акардэоне.

Ад імя ГП БГКТ Валянціна Ласкевіч падзякавала войту гміны ў Новым Двары Станіславу Лабенцу і дырэктару Дома культуры Кшыштафу Хайноўскаму за дапамогу ў правядзенні фэсту.

Гэтым разам у адзіночку падпісваў на фэсце свае паэтычныя зборнікі Віктар Швед. Прадаваліся тут касеты з песнямі беларускіх мастацкіх калектываў Беласточчыны.

# ... і ў Дуброве-Беластоцкай

Тут таксама, замест у мясцовым лясочку, фэст адбыўся ў зале кінатэатра „Лотас", якую публіка заняла да апошняга месца.

Апошні ў сёлетнім сезоне фэст ГП БГКТ адкрыў старшыня Рады горада і гміны Дуброва-Беластоцкая Станіслаў Фядорчык. Прывітаў ён сардэчна публіку і даў голас старшыні ГП БГКТ Янку Сычэўскаму. Прамоўца засяродзіў увагу на ацэнцы фэстаў, праведзеных Беларускім таварыствам на Беласточчыне. „У летні перыяд бягучага года, — сказаў старшыня ГП, — правялі мы 22 фэсты, у якіх прыняло ўдзел каля 40 тысяч слухачоў і гледачоў і каля паўтары тысячы выканаўцаў. Так аграмадную працу змаглі мы выканаць толькі дзякуючы ў першую чаргу ўсім нашым мастацкім калектывам, якія ўсе летнія нядзелі прысвяцілі выездам. Належацца таксама словы шчырай падзякі мясцовым уладам за дапамогу ў падрыхтоўцы і правядзенні гэтых культурных мерапрыемстваў і ў забеспячэнні транспарту і сціплага пачастунку ўсім калектывам. Дзякуючы добрым адносінам мясцовых улад і Дома культуры змаглі мы правесці і наш сённяшні заключны фэст у Дуброве-Беластоцкай" — сказаў на заканчэнне Я. Сычэўскі і даў голас Валянціне Ласкевіч, якая павяла канцэрт.

Выступалі чаргова: „Цаглінкі" са Старога Ляўкова, эстрадныя калектывы „Гранд" з Грабянёў і „Сальвадор" з Дома культуры ў Дуброве, калектыў „Журавінкі" з Агароднічак. Паспяхова выступіла вучаніца IV класа падставовай школы Карнэлія Гэцьман, унучка старшыні Дуброўскага аддзела БГКТ Аркадзя Сулімы. Выканала яна цікавы танец да сучаснай танцавальнай музыкі і праспявала беларускую песню „Усе родам з дзяцінства".

Апошнім выступіў хор Гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку. Валянціна Ласкевіч падкрэсліла, што гэты хор заняў першае месца на фестывалі фальклорных калектываў, які праводзіўся 12 верасня г.г. у Быдгашчы. Удзельнічала ў ім 80 мастацкіх калектываў з усяе Польшчы. 15 верасня хор таксама паспяхова выступіў у Гародні на IV мастацкіх сустрэчах Беласток-Гародня, арганізаваных Саюзам палякаў у Беларусі і ГП БГКТ у Польшчы.

В. Ласкевіч сардэчна падзякавала дырэктару Дома культуры ў Дуброве Лілі Александровіч і старшыні Дуброўскага аддзела БГКТ Аркадзю Суліме за ахвярную працу ў падрыхтоўцы і правядзенні гэтага культурнага мерапрыемства.

Пасля канцэрта членаў мастацкіх калектываў пачаставалі бутэрбродамі, кавай і гарбатай.

**В. Ш.**

# Пры камуне лепей жылося

З дзядулем Антонам Барташуком з Радзівілаўкі раней мне сустрэцца не прыйшлося. Але калі я даведаўся ад майго сябра, Веслава Паграбняка, што ягоны дзядуля памятае кастрычніцкую рэвалюцыю, бачыў Леніна і шмат свету зведаў, рашыў абавязкова наведаць гэтага цікавага чалавека.

Звазіў мяне ў Радзівілаўку на сваёй машыне згаданы ўжо Антонаў унук, які цяпер жыве ў Бельску-Падляшскім. У нядзелю 21 ліпеня стаяла цудоўнае надвор'е. З Кузавы, праз Чаромху, выехалі мы на шашу Кляшчэлі—Сямятычы, а за Жэрчычамі павярнулі ў напрамку Нурца-Станцыі, адкуль пачыналася лясная, завілістая „стратэгічная" дарога ў напрамку дзяржаўнай граніцы.

— Калі я жыў яшчэ з бацькамі ў вёсцы, — гаворыць Весек Паграбняк, — то ў гэты лес прыходзіў за грыбамі і ягадамі. Многа іх было заўсёды ў гэтую пару. А ў вайну сюды людзі хаваліся ад немцаў.

Скончыўся лес і перад намі раскрылася панарама распаложанай у даліне вёскі. Гэта была Радзівілаўка. Праехаўшы невялікі кавалак брукаванай дарогі, аўтамабіль рэзка крутануў убок. Мы спыніліся ля невялікай хаткі.

— Прыехалі, — кажа сябра, закрываючы дзверы машыны. — Каб толькі „дзядэк" быў у хаце...

— А можа ён кудысьці пайсці?

— Ён яшчэ рухавы старэча, не заседжваецца на адным месцы..., — і, падышоўшы да акна, заявіў з усмешкай: — Засталі. Дзед яшчэ ў кальсонах...

Сустрэў нас высокі, хударлявы старэча з беласнежнымі, разрэджанымі валасамі і парысаваным маршчынамі тварам.

— Я толькі што ўстаў, — апраўдваўся дзед. — Пасля поўначы лёг спаць. З цыганамі гуляў...

— То ў вас цыганы ёсць? — пытаю.

— Я толькі так кажу, — смяецца дзед. — Зяць з Седльцаў прыехаў. Пайшлі да сваякоў у канец вёскі, вогнішча расклалі, каўбаску пяклі і гарэлкай папівалі. Сёння галава расколваецца... А можа шпарнем па чарачцы?

— Я — шафёр, — кажа Весек. — Цяпер паеду наведаць брата, а вы тут пагаварыцце.

Паказаў я дзядулю свежы нумар „Нівы", якую гаспадар узяў у рукі і стаў чытаць без акуляраў.

— Колькі ж вам гадоў? — спытаў я.

— Я — з дзевяцьсот пятага, значыцца мне ўжо дзевяноста першы пайшоў. Хутка час бяжыць. Здаецца, нядаўна вяселле гулялі, а ўжо дваццаць гадоў няма ў жывых жонкі, — сумна ўздыхнуў дзядуля. — Самому з хатай і агародам спраўляцца трэба.

Толькі цяпер я звярнуў увагу на чысціню ў хаце і гаспадарскі парадак на панадворку, у агародзе і садзе.

Перайшлі мы з кухні ў пакой, расселіся выгадна і стаў я распытваць дзеда пра гісторыю вёскі і ягоны жыццёвы шлях.

— Наша вёска мае дзве назвы, — пачаў Антон Барташук. — Даўней яе Аляксандраўкай пісалі. Казалі, што князь Аляксандр прыгоннае права адмяніў і мужыкам волю даў. Відаць, таму вёску ягоным іменем назвалі. Пасля вёска перайшла ва ўладанне князя Радзівіла і тады Радзівілаўкай стала. Сам князь меў у сваім распараджэнні дзевяноста дзевяць вёсак. У Мельніку над Бугам меў ён шыкарны дом. Жыў у ім нейкі ягоны памагаты, які вітаў князя, калі той наведваў мясцовасць.

Я сам у Жэрчычах нарадзіўся, быў наймалодшы ў сям'і. Былі ў мяне сястра Таня і брат Кліменцій. Калі мне было тры гады, памёр бацька, а праз год — маці. Нашы сваякі жылі бедна, таму намі ў большай ступені апекаваліся аднавяскоўцы, чужыя людзі. Яны Таню выдалі замуж за музыканта з суседняй вёскі. Калі Кліменцію споўнілася 16 гадоў, стаў ён хадзіць у Нурэц на станцыю, грузіць дрэва ў яўрэя. Тады ў Нурцы ўсяго чатыры гаспадары былі. Брата таксама ажанілі з дзяўчынай з суседняй вёскі. Зажылі мы ўтраіх у бацькавай маленькай хацінцы без падлогі і з адным акенцам з чатырма шыбінамі. Мне, васьмігадоваму хлапчуку, стала жыць лепш.

У Жэрчычах была карчма, у якой вечарамі і святочнымі днямі збіраліся мужыкі. Вёскай упраўляў дзесятнік. Калі брат з жонкай займаліся гаспадаркай, я бегаў у канец вёскі да сваёй хрышчонай маці, якая мяне вельмі любіла. Яна была прыгожай маладзіцай, але выйшла замуж за сямідзесяцігадовага дзядулю. Багаты быў! Хрышчоная заўсёды з пашанай звярталася да свайго мужа. Памятаю, як неаднойчы казала: „Вы, Стэпанэ, у хаті попрыбірайтэ, бо до мэне попрадухі прыйдут!" Да васьмі гадоў я без нагавіц хадзіў. Насіў жупан, такую доўгую сарочку. Мая братавая напрасіла ў сваёй маці зрэбнага палатна і пашыла мне нагавіцы.

Сяджу і слухаю дзеда Антона і перад вачыма ўсплывае маё дзяцінства, калі я таксама ў сарочцы „купаўся" ў пяску ў хаце, у якой не было падлогі. Хату ўзарвалі немцы, калі шукалі партызан-дэсантнікаў, якія жандараў у нас пабілі. І ў школу ў Чаромху ішоў я ў сорак сёмым у нагавіцах з ільнянога палатна, бо такое нам добрыя людзі падкінулі.

— А калі вы пакінулі Жэрчычы? Здаецца, вы ў бежанстве былі, — звяртаюся да майго субяседніка.

— Прыйшлося мне ў дзяцінстве паўсвету прайсці, — працягвае расказ Антон Барташук. — У 1915 годзе пакінулі мы вёску. У Жэрчычах засталося толькі трох жыхароў. Казакі на конях па вёсцы ездзілі і крычалі: „Убирайтесь все, а то вас германцы побьют!" Апынуліся мы ў Сімбірскай губерні. Спачатку жылося нядрэнна, але пасля рэвалюцыі пагоршылася, калі насталі „новыя парадкі". Вярнуліся мы ў Жэрчычы восенню 1921 года. У нашай хаце жылі ўжо чужыя людзі і цяжка было вытурыць іх адсюль, аднак удалося. Людзі жылі бедна. Не было чым засеяць поля. Жыта ў сваякоў пазычалі.

— А як вам жылося ў адроджанай Польшчы?

— У 1928 годзе мяне прызвалі ў войска. Служыў я ў 22 Пяхотным палку імя Пілсудскага ў Седльцах. Не прыйшлося доўга служыць. Страціў я слых і мяне адпусцілі дамоў. Тады пайшоў я ў прыступы ў Радзівілаўку. Цесць працаваў гаёвым і не было каму займацца гаспадаркай. Намовіў я жонку, каб гаспадарку запісаць на мяне, бо адносіны з цесцем былі ў нас сціплыя. Цесць запісаў нам па „чэтвэртусі", так што атрымалася паўучастка. На гэтай гаспадарцы дачакаліся мы чатырох дачок, выдалі іх замуж. Адна толькі засталася ў вёсцы, астатнія жывуць у Мельніку, Сямятычах і Седльцах.

— Скажыце, дзядуля, пры якой уладзе жылося вам найлепш? — пытаю. — Вы цара-бацюшку памятаеце, жылі і пры санацыі, і пры камуне, а зараз у дэмакратыі апынуліся.

— Пры камуне, — без запінкі адказвае старэча. — Яна мне пенсію за гаспадарку дала. Каб да гэтай пары прыйшлося мне з гаспадаркі жыць, даўно на той свет пайшоў бы. А так, дзякуй Богу, унукаў ды праўнукаў дачакаўся. Цешуся імі, часта наведваюць мяне. Вось учора з Седльцаў прыехалі, на вогнішча і каўбаскі запрасілі. Тэлевізар ад унука з Новай Солі атрымаў. Я ім таксама час ад часу пару грошай падкіну. І так жыццё плыве...

Спыніў свой расказ дзед Антон, відавочца падзей, якія толькі па фільмах нам вядомы. Развітваючыся, пажадаў я яму яшчэ не раз пагуляць з цыганамі, як гэта яму напярэдадні здарылася.

**Уладзімір Сідарук**



*Парад з нагоды 50-годдзя БССР.*

**Максім ТАНК**

# Дзённікі

***(фрагменты)***

## 1978

**12.XII.** З „Праўды" даведаўся аб смерці камандуючага Чырвонасцяжнай Туркменскай акругі С. Я. Беланожка. Калісьці ён прымаў нас — членаў Камітэта па Ленінскіх і Дзяржаўных прэміях. Цікавы быў чалавек. Любіў літаратуру, музыку і, асабліва, архітэктуру, якой удзяляў шмат увагі. А зараз трэба будзе напарыць зёлак, прысланых калісьці Я. Шутовічам, і спрабаваць імі лячыць свае недамаганні, бо вельмі ж не хочацца класціся ў паліклініку.

**16.XII.** Спакусілі паехаць на паляванне. Упаляваць, як заўсёды, я нічога не ўпаляваў, але хоць падыхаў лясным водарам, пахадзіў, пагрэўся ля кастра, пагутарыў з леснікамі.

Вечарам заехалі да І. П. Рудакоўскага, потым — зайшлі да Рудака. Пазнаёміліся з яго надзвычай сімпатычнай сям'ёй: жонкай — Дзімай Іванаўнай, іх дочкамі. Пабываўшы на людзях, я ўбачыў, якой нудотай, бывае, запаўняем мы, пісьменнікі, сваё жыццё.

**17.XII.** Баюся нат паралічыць, колькі за гэтыя дні адбудзецца ў нас розных нарад. Заўтра (званіў Я. Скрыган) пленум Камітэта па Дзяржаўных прэміях. Сябрук прыслаў старонкі з даваеннага польскага часопіса „Apel", на якіх змешчаны з вершамі Атвіноўскага, Струга, Іванюка, Плесняровіча, Ожуга і фрагменты з артыкулаў Чаховіча, Загурскага, Лабадоўскага.

Тэрмометр апаў да мінус 22°C.

**27.XII.** Усе хваляць нашу рэспубліканскую мастацкую выстаўку. Трэба будзе яе наведаць. Глыбокая ноч. І нарэшце цішыня. Думаю, што індустрыяльная тэма толькі тады зможа знайсці сваё мастацкае адлюстраванне, калі перастанем калечыць зямлю, атручваць паветра і вынішчаць усё жывое. Ужо на змену нам прыходзяць людзі, якія не бачылі многіх відаў раслін, жывёл і чыстага неба, што яшчэ ў гады свайго юнацтва бачылі мы.

**29.XII.** На ваенны парад і дэманстрацыю не змог пайсці. І так недзе прастыў. Быў толькі на прыёме ў гонар 60-годдзя БССР.

Казалі, званіў з Масквы Н. Мар. Прачытаў вершы ў дзевятым нумары „Полымя", у якім змешчана цікавая падборка Пімена (Панчанкі — рэд.) і мая паэма „М. Дворнікаў". Вечарам званіў Пімен. Пахваліў паэму і растлумачыў, чаму ў адным са сваіх вершаў апалчыўся супроць верлібра, за які многія бяруцца, але нічога ў іх не выходзіць. Гэта мне нагадвае той дасціпны плакат на дзікім Захадзе, які вісеў у піўной над піянінам і пра які гаварыў друг Д. Рыда Вільямс, калі выступаў на рускай мове. На плакаце было напісана: „Просім не страляць! Кожны іграе, як можа"...

**30.XII.** У апошнія гады ў нас было шмат перавыданняў твораў першых гадоў станаўлення савецкай улады, якія зараз чытаюцца з вялікай увагай і цікавасцю. Толькі ў жанры крытыкі амаль нічога не заслугоўвае на перавыданне, бо ўсе іншыя нашумеўшыя артыкулы, якія нагадвалі судовыя прыгаворы, страцілі ўсю пазнавальную вартасць і могуць толькі быць зборам трагічных памылак. Прычына недаўгавечнасці гэтай прадукцыі — і ў нізкім яе мастацкім узроўні.

І яшчэ сказаў бы: у ацэнцы таго ці іншага твора, у нас заўсёды пераважае групавая ацэнка. „Калі творца — наш, бі ў звон!"

**31.XII.** І так, сёння сустракаем Новы год. Сотні паўтары паслаў віншавальных паштовак. Маразы. Даўно ўжо не было такіх піліпаўскіх халадоў. Нат дома тэмпература апала да сямі градусаў. Званіў Э. Валасевіч. Казаў, шмат дзе палопалі трубы і радыятары ацяплення. Як тут піць шампанскае за такі Новы год? У „Праўдзе" — харошая падборка вершаў Расула Гамзатава.

Гэты Новы год загрукаў у дзверы не з падаркамі, а з такімі зубастымі, кусьлівымі халадамі, якія, помню, былі толькі ў памятных 1939—1940 гг. — гадах і радасных, і трывожных.

***(працяг будзе)***

# Позірк у мінулае

**6 кастрычніка**

1887 г. — нар. Ле Карбюзье, французска-швейцарскі архітэктар.

1924 г. — нар. Сулейман Дэмірэль, турэцкі палітык.

1950 г. — здадзены ў карыстанне найдаўжэйшы (1700 км) нафтаправод ад Персідскага заліва да Міжземнага мора.

1973 г. — атакай Егіпта і Сірыі пачалася чацвёртая арабска-ізраільская вайна.

1981 г. — смяротны замах на егіпецкага прэзідэнта Анвара Садата.

**7 кастрычніка**

1571 г. — перамога флота Свяшчэннай лігі над туркамі пад Лепанта.

1777 г. — перамога амерыканскіх войск над брытанцамі пад Саратогай змяніла ход вайны за незалежнасць ЗША.

1879 г. — Аўстра-Венгрыя і Германія падпісалі тайны дагавор аб узаемадапамозе на выпадак расейскага нападзення.

1885 г. — нар. Нільс Бор, дацкі фізік.

1949 г. — паўстанне Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі.

**8 кастрычніка**

1895 г. — нар. Хуан Перон, аргенцінскі палітык.

1903 г. — у Гаазе, упершыню ў гісторыі судаводства, у ролі адваката выступіла жанчына па прозвішчу Ван Дорп.

**9 кастрычніка**

1651 г. — у Англіі выдадзены Навігацыйны акт, які дазваляў на вываз і прывоз тавараў толькі на англійскіх суднах.

1835 г. — нар. Каміль Сен-Санс, французскі кампазітар.

1892 г. — нар. Іва Андрыч, сербскі пісьменнік.

1952 г. — у Вашынгтоне праведзена аперацыю, падчас якой упершыню хвораму ўстаўлена сардэчны клапан са штучнага рэчыва.

1967 г. — аргенцінска-кубінскі лекар і рэвалюцыянер Эрнеста Гевара забіты падчас перастрэлкі з балівійскімі войскамі.

1970 г. — парламент Камбоджы аб'явіў звяржэнне пануючай 1168 гадоў манархіі і ўстанаўленне рэспублікі.

1993 г. — у Венскай дэкларацыі прадстаўнікі 32 дзяржаў, членаў Рады Еўропы, вырашылі распрацаваць міжнародныя прававыя інструменты аховы нацыянальных меншасцей.

**10 кастрычніка**

1794 г. — падаўленне паўстання Касцюшкі прускімі і расейскімі войскамі.

1813 г. — нар. Джузепе Вердзі, італьянскі кампазітар.

1907 г. — Гарадская рада Берліна вырашыла купіць аўтамабіль для патрэб магістрата.

1961 г. — завяршэнне электрыфікацыі 5500-кіламетровага адрэзка чыгункі ад Масквы да Іркуцка.

1980 г. — землятрус на поўначы Алжыра: 20 тыс. людзей загінула, 44 тыс. — паранена і 380 тыс. асталося без даху над галавою.

**11 кастрычніка**

1885 г. — нар. Франсуа Марыяк, французскі пісьменнік.

**12 кастрычніка**

1492 г. — у пошуках марскога шляху ў Індыю Хрыстафор Калумб адкрыў новы кантынент, прычаліўшы да берагоў Багамскіх астравоў.

1960 г. — падчас выступлення перад Генеральнай асамблеяй ААН старшыня савецкай дэлегацыі Мікіта Хрушчоў зняў з нагі бот і біў ім аб стол, каб супакоіць узбураную публіку. **(Ш)**

# *Парнасік*

### Восень

Палі ўжо пусцеюць,
Жаўцее трава,
Няўхільная восень
У вёску прыйшла.
Усё замірае
Па садах, лугах.
Селянін, спяшайся
Зямлю заараць,
Каб збожжа пасеяць
Ды бульбу сабраць.
Старайся жа моцна,
Каб дроў ты прывёз.
Не будзе нам страшны
Ні снег, ні мароз.
Бо мы — працавіты,
Вясковы народ,
І горда стрымаем
І сцюжы, і дождж.

**Мікалай Лук'янюк**

### Гайнаўшчына

Гайнаўшчына — беларускі край,
Дзе поле, лес, луг і гай.
Я не мастак яго апісаць
А таксама і расказаць.
Прырода тут асаблівая:
Жывая, прыгожая і гаманлівая.
А Белавежская пушча — райскі куток;
Паверце ў гэта, сястра і браток.
Бараніць мы будзем гэта,
Бо жыццёвая наша мэта:
Быць адважным і рашучым
І цярпець месцам балючым.
Дык найлепшы скарб — народ,
Беларускі цэлы род.
Згуртаваўся ён калісьці,
Не высах і пажаўцеў як лісце.
Ён зялёны і жывы,
БГКТ ён верны, дарагі.
Адзначаем яго гадавіну
І атрымалі мы даравіну:
Вось Музей, дзе я стаю
І паклоны ўсім шлю,
Хто памагаў у яго будове
І ў беларускай роднай мове.
Вось Кастусь Майсеня — герой!
Ён адважна крочыў у бой,
Каб і мы нешта дасталі
І народ свой праслаўлялі.
Каб даць памятку для нас.
І згуртаваўся родны клас.
Вось Музей — ён будаваўся,
Мо і не скора падымаўся.
Слава тым, хто памагалі
І ахвяраванні свае прысылалі.
Сэрца цешыцца за ўсё:
Што жыве, і што прыйшло.
Юбілей у нашым народзе —
Рэдкасць; мо гэта не ў модзе...
Ды сорак гадоў БГКТ жыве,
Панфілюк паклон яму шле.
Ды я ўсіх шчыра люблю,
Гарачыя віншаванні шлю.
У Гайнаўцы знаходзяць месца —
У прасторным Музеі не цесна.
Слава ўсім нашым героям,
Што працуюць для роднай мовы.
Хай Сычэўскаму, старшыні,
Свецяць прыгожыя і ясныя дні.
Няхай песня ляціць у вырай
Прыгажосцю асаблівай.

**Мікалай Панфілюк**

### Хлапец з Вілюкоў

Ой, шумі, шумі ты, лес зялёны,
грыбы збіраю задаволены.
Ой, знаю, знаю, лес, твае чары
і веру, што споўніш усе мае мары.
Пастаўлю хатку, куплю машыну
і пакахаю добру дзяўчыну.

### Дырэктар з Харошчы

Ой, наш дырэкатр — вельмі вучоны,
наладзіў конкурс нам за мільёны,
паклікаў бедных, слабых, калекаў,
што ўжо не могуць нат жыць без лекаў.
Даў пэндзлі, фарбы і смачна есці,
і паказаў нам, дзе каму сесці.
Мы дзве гадзіны ўсе малявалі.
З Засценак дзеці ўсіх перагналі.
Цаню сапраўды іх тэхніку калажу,
шаноўнай камісіі я не абражу,
хаця ў ёй быў нехта, хто даваў згоду
за пейзаж прысвоіць мне ўзнагароду.

**Мар'я Пень**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Сніцца мне, што я знаходжуся на ўскраіне ляску, побач з тым кварталам горада, дзе я жыву. Буйная трава і расце там маліна. Я зрываю яе. Але падыходжу далей і бачу ларок, у якім прадаецца маліна. Прадаўшчыцы няма. Я бяру і ем тую маліну. Але паяўляецца прадаўшчыца і кажа, што я краду ў яе маліну. Я зусім не збіралася яе красці, мне здавалася, што гэта звычайна — бяру і ем. Я ёй гавару, што я зараз жа пайду нарву маліны і звярну ёй тое, што з'ела. На гэтым абрываецца гэты абразок, і я ўжо знаходжуся на рабоце. У будынку балаган, многа нейкай вопраткі ўсюды навалена, ледзь можна прайсці. Супрацоўнікаў не бачу. А як жа я апранута?! Сукенка, якую я найчасцей апранаю, калі прыходжу з работы, і нейкі цёмна-сіні жакет, пяском пабруджаны. Падымаю сукенку вышэй калена, а там нейкія надпісы на назе, ды адзін выглядае на адціснутую пячаць. Я стаю, здзіўленая, і думаю: што са мной было? Я ж была ў лесе, а тут ужо на рабоце. Як усё гэта здарылася? **Люба**

Люба! Першая частка твайго сну гаворыць за тое, што твае справы ішлі паспяхова. Ты сярод буйной травы збірала маліну, а ягады абазначаюць поспех у справах. А пасля ты пачала есці, як сваю, маліну, якая прадавалася ў ларку, і, хаця ты не думала, што крадзеш яе, так неяк выйшла, а прадаўшчыца злаяла цябе. Ой, ці не павернуцца твае справы ў горшы бок...

Што датычыць другой часткі твайго сну, дык яна, хаця зусім іншая, пацвярджае мой апошні тэзіс. Перш за ўсё — балаган у цябе на рабоце можа прадвяшчаць там нейкія змены. Балаган, аб чым я ўжо пісаў даволі часта, можа абазначаць перамену кватэры ці працы. Баюся, што перамена можа быць некарысная для цябе: ты была на рабоце ў дамашняй сукенцы, а жакет быў пабруджаны пяском. А яшчэ ж і той надпіс на назе, што выглядаў, як адціснутая пячаць. А пячаць, на жаль, абазначае кепскае — фальшывы данос, злосныя абгаворы. Мо ў выніку іх нешта табе не ўдасца.

**Астрон**

# Крыжаванка

**Гарызантальна**: 3. калючае, пустазелле, 8. барыш, 9. распад, разлажэнне, 10. ядавіты газ, 11. збянтэжанасць, 13. вялікая, нізкая пасудзіна, 14. найслаўнейшы ў Рыо-дэ-Жанейра, 15. расліна з чырвонымі кветкамі і дробным насеннем, 19. горад знішчаны 9.08.1945 г., 21. суд для разгляду ваенных і грамадзянскіх злачынстваў, 22. паглыбленне ў зямлі, 25. ручная агнястрэльная зброя, 27. мешаніна мукі з вадкасцю, 28. рагатая лясная жывёла, 29. сузор'е Задыяка, 30. прыстойнасць, выгляд, уражанне, 31. паверхня шара, 32. пярэдняя частка галавы.

**Вертыкальна**: 1. дрыгва, 2. ваяка з Кубані, Запарожжа, 4. свіное сала, 5. даўні жыхар нашых лясоў, 6. мастак з Віцебска (1887—1985), 7. адзін з дванаццаці ў чалавека, 12. трапічная жывёліна, якая знішчае ядавітых змей, 13. зматанне, 15. тое, да чаго імкнуцца, 16. чарнаморскі паўвостраў, 17. брус, забіты ў грунт. 18. магутнасць, энергія, 19. прозвішча жонкі Сталіна, 23. спосаб, прыём, 24. адсутнасць святла, 25. процілеглая падлозе, 26. першая ў грэчаскім алфавіце, 29. частка спектакля. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 33 н-ра:**

**Гарызантальна:** калена, Сасеба, Гавана, Рэсу, Эпір, святаяннік, свет, урду, Айдаха, каліва, навіна.

**Вертыкальна:** кабарэ, нага, Сана, банкір, ваўчаягада, сусвет, Эпікур, свечка, дубіна, айва, хана.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока.


*Ніва*

**„Niwa"**

ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1997 r. upływa 5 grudnia 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 13 zł (130 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,75 zł (17 500 starych zł), a kwartalnie — 22,75 zł (227 500 starych zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-2700-1-08.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка

## Пародыі

### Паэт–чарапаха

*Падобным трэба быць да чарапахі*
*І панцыр на сваёй спіне насіць.*
*Тады ў цябе зусім не будзе страху,*
*Што раптам нехта зможа наступіць...*

***Віктар Швед***

Стаў я чарапахай.
І пайшоў у свет.
І няма мне страху,
Бо я — Віктар Швед.
А мой панцыр — вершы,
Хай пакінуць след.
Я паэт найлепшы,
Бо я — Віктар Швед.
Няхай топчуць танкі —
Не стаптаць ушчэнт.
Лепшы я за Танка,
Бо я — Віктар Швед.
Панцыр адмысловы
Па жыцці нясу,
Бо жыву я словам,
Ем і каўбасу...

**Сяргей Чыгрын**

## Дурноты

### Значыцца

Амаль што ўдзельнік штурму
Дзед
Унучыку пра новы свет
І ленінскую ласку
Распавядае казку.
І скачуць чорцікі хутчэй
На язычок калючы:
— Твой Ленін, значыцца,
Кашчэй,
Бо кажаш —
Неўміручы!

### Лісты і пісьмы

У вокнах дрыжаць
Не ад страху шыбіны.
Не можа рохкаць
Парсюк абсмалены.
Пісаў Каліноўскі
Лісты з-пад шыбільні,
Нашчадкі —
Пісьмы вялікаму Сталіну.

### Традыцыя

Спрадвеку на-вуха-даносары
Шэптам рабілі кар'еру —
Ад аўтадафэ
І да
Тэлефона даверу.

**Рыгор Барадулін**

## Наша пошта




© P. Żak / KONKRET    Nr 62

Somethings Never Change

Гвалтоўна салоныя прывітанні
шлюць здыхаючай ніве
з Альтэ польніше штат
„Danzing" зона і зноў
шлюць падхчэланыя читачы

Маськo
Бара-Баро кухцік
Саша лукашэнке
Дон Васыль
Нэптун з трызубам

Ps. Фэстываль без Беларусаў
гэта хуй не фестываль. (13-15 wrzesień 1996 ..
III Festiwal mniejszości narodowych

KONKRET 02-201 Warszawa ul. Opaczewska 87    druk: Z.O. Ludna    KONKRET tel.: 668 50 52, 668 50 45, 668 72 97, fax: 668 50 08

5 905374 000012

Гэтыя „гвалтоўна салоныя" прывітанні мы атрымалі ад нашых сяброў, артыстаў з Беластока і падбеластоцкай вёскі — удзельнікаў III Фестывалю нацыянальных меншасцей у Гданьску. Змена клімату і прыморскія вятры прывялі да таго, што нашым верным чытачам паблыталіся нават уласныя імёны і прозвішчы з прозвішчамі герояў Сцяпана Абуха, ці проста вядомых палітыкаў суседняй краіны.

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

У кабінеце вялікага фізіка Нільса Бора малады асістэнт убачыў падкову.

— Ці вы, прафесар, глыбока перакананы матэрыяліст, верыце ў забабоны?

— Не веру.

— Дык чаму павесілі ў сябе падкову?

— Бо чуў, што падкова прыносіць шчасце тым, што не вераць у забабоны.

* * *

— Меў я прыгожы дом, самаход, дачу над возерам, — гаворыць з тугою астрожнік сябрам у камеры.

— То пэўна табе ўжо нічога не бракавала?..

— Не ставала мне толькі рахункаў.

* * *

Размаўляюць тры садаводы:

— Абрадзілі ў мяне ў гэтым годзе яблыкі; кожны важыў больш за кілаграм, — сказаў першы.

— Мае былі большыя — па пяць кілаграмаў штука, — сказаў другі.

— А я выгадаваў такі яблык, што калі вёз яго на рынак, то вылез з сярэдзіны такі вялікі рабак, што з'еў майго каня, — адказаў трэці.

* * *

Экспедыцыя этнографаў прабіраецца праз афрыканскі буш. Набліжаючыся да вёскі, чуюць гукі бубноў. Каля аднаго жылля сядзіць размаляваны негр і напорыста барабаніць.

— Што здарылася? — пытаюць вучоныя.

— Вады няма.

— Разумеем: выклікаеце дождж...

— Ды не; выклікаю гідраўліка з суседняй вёскі, каб наладзіў водапровад.

* * *

Малы сынок размаўляе з бацькам, які вярнуўся з афрыканскага сафары:

— Ільва не баяўся?

— Ну, пэўна што не!

— А слана?

— Таксама не.

— А чаму баішся цяпер мамы?

* * *

— Чаму вы, абвінавачаны, калі вас затрымалі ў лесе, назвалі фальшывае прозвішча, — пытае суддзя браканьера.

— Бо ад разгубленасці перад леснікам забыў сапраўднае.

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка! Ці ўсе дзяўчаты маюць такія клопаты з бацькамі, як я? Я ўжо проста не магу вытрымаць, плачу штодзень. А яны мяне зусім не хочуць слухаць, а ведаюць сваё.

Я не магу сказаць, што рабілі мне раней крыўду. Я — адзіная ў іх дачка і мне птушынага малака адно не хапала. Не паспела я ўбачыць у краме прыгожыя боцікі, як ужо мама бегла і купляла мне іх без прымеркі. Прывозіла дахаты, там я мерыла, а калі не падыходзілі, мама везла іх назад у краму і мяняла на іншы нумар.

Ніводная з маіх сяброўак не мела такіх прыгожых куртак і світарочкаў, як я. Бацька часта выязджаў за граніцу (у яго своя фірма), дык прывозіў мне наймаднейшую вопратку. Купілі мне нават камп'ютэр, калі ніхто ў нашым класе яго яшчэ не меў, а сяброўкі і сябры мне так зайздросцілі... Да сёння не магу ўцяміць, чаго яны мне зайздросцілі. Гэты камп'ютэр мне зусім непатрэбны. Стаіць у маім пакоі толькі „дзеля красы", пыл збірае. Ну, але што ты зробіш, калі бацькі патрабавалі ад мяне толькі аднаго: вучыся ды вучыся!

Ну, і я вучылася. І нават някепска скончыла тэхнікум, які выбралі мне бацькі. Але дзе ты сёння так адразу знойдзеш працу? Дык бацька запрапанаваў працу ў яго фірме. Ну, зразумела, Сэрцайка, не цікавіла мяне гэта праца. Са сваёй адукацыяй я мусіла прышываць гузікі да куртак ці блузак, якія шылі тут краўчыхі, складваць вопратку, лічыць яе. Сталі ўсе — і маці, і бацька, і я, быццам нельга было наняць яшчэ пару працаўнікоў.

Ну, і я ўрэшце сказала бацьку: „Досыць!" А што, я — катаржніца якая, ці што... Раблю найгоршую работу, нічога супольнага з маёй прафесіяй. А такая змучаная, што пасля ледзь ногі цягаю, нават з хлопцам сілы не маю сустрэцца.

Бацька знерваваўся, але папрасіў знаёмага, каб узяў мяне на працу да сябе. Якраз ён шукаў сабе сакратарку і, калі даведаўся, якая ў мяне адукацыя, ахвотна згадзіўся. Трэба было толькі падбучыцца пісаць на машыне, але не гэта было галоўнае.

Я думала, што нарэшце вызвалюся з-пад уплыву бацькоў, дык хоць свабаднейшая буду. Але што ты! Ганялі мяне там, як сабаку! Ніколі не думала, што сакратарку можна так трактаваць. Я думала, што буду ў яго фірме адной з найважнейшых працаўніц. Сяброўкі мне казалі, што калі сакратарка шэфу спадабаецца, дык яна наогул можа стаць найважнейшай персонай. А тут... не то што чай бясконца заварвай ды шклянкі мый, але і прыбірай зачастую, бо прыбіральшчыца хворая!

Ну, і сказала я раз, што на гэту тэму думаю. А шэф адразу: „Ну, дык можаш лічыць сябе звольненай!" Дык я і пайшла. Пляваць мне на такую фірму.

Думаеш, бацькі мяне зразумелі?! Вунь людзі да сарака гадоў нярaз дзяцей кормяць, а мой бацька сказаў: не будзеш працаваць — не дамо есці. Што мне было рабіць?! Пайшла я ў бюро працы і запрапанавалі мне месца апякункі да хворых у ПЦК.

Божа! Ніколі не думала, што людзі могуць так цяжка працаваць на кавалак марнага граша! Хаджу па хатах, маю пару падапечных, але трэба там зрабіць усё. Гэта вельмі хворыя людзі: адзін чалавек без ног, маладая жанчына паралізаваная. Трэба прыбраць, купіць, зварыць, памыць, пераварнуць, пасыпаць талькам, накарміць. Прыходжу дахаты і плачу. А бацька няўмольны: калі не спазнала жыцця дагэтуль, спазнай яго, пакуль не позна, кажа. Што рабіць?

**Агата**

Агата! Твае бацькі занадта позна апамяталіся. Да працы дзіця трэба прывучаць ад маленства. Трэба ўмець даваць, але і вымагаць ад дзіцяці. Твае бацькі думалі, што зробяць з цябе чалавека адным даваннем, а цяпер вельмі расчараваліся сваёй дачкой.

Добра, што хоць цяпер бацька рашыўся ўзяцца за цябе. На Захадзе кожны мільянер, які добра зычыць свайму дзіцяці, высылае яго ў час канікул на фізічную працу. Каб зараблць у будучыні, трэба спазнаць смак заробленага сваімі рукамі граша.

Нядаўна адна знаёмая расказвала, што адзін амерыканскі дыпламат запрасіў дзяцей у Польшчу. Даў ім адпачыць усяго тыдзень, а пасля — то стрыглі газоны, то вадзілі дзяцей у прадшколле, то мылі вокны ў пасольстве. Адным словам, вучыліся жыць.

**Сэрцайка**